

Інфармацыйны грамадзка-аналітычны часапіс Грамадзкага Аб'яднаньня **"Цэнтр Інфармацыйнай Падтрымкі Грамадзкіх Ініцыятываў "Трэці сектар"**. Непэрыядычнае выданьне ў беларускай мове. Распаўсюджваецца **бясплатна**. Наклад нумару – **299** асобнікаў. Выдаецца пры падтрымцы Праграмы TACIS у межах праекту „Павышэньне эфэктыўнасьці дзейнасьці грамадзкіх арганізацыяў Гарадзеншчыны". Пры передруку просім рабіць спасылкі на **"Трэці сэктар"**. Рэдактар **Вітаўт Руднік**. Тэхнічны рэдактар **Юры Тарасевіч**. Стыль-рэдактар **Валеры Руселік**. Мастак **Алесь Сураў**. Удзел у працы над нумарам бралі: **Сьвятлана Руднік**, **Андрэй Мялешка**.
Наш адрас: **А/С 54, 230009 Гродна, Беларусь.**
Тэлефон/факс: **+375 (152) 96-74-78.**
Internet: **sektar@iname.com, http://sektar.cjb.net**

**Зьмест нумару**





# Няхай нам шчасьціць!

**З Божым Нараджэньнем вас, калегі! З Новым годам! Першы год чарговага стагодзьдзя адыходзіць у гісторыю. Для адных ён быў часам змаганьня супраць, для іншых – барацьбы за. Хтосьці адчувае сябе пераможцам, хтосьці – не. Галоўнае – каб былі зробленыя правільныя высновы. А падставаў рабіць высновы сёлета было ой як багата!**

Асабіста я зрабіў тры высновы, якімі й хачу падзяліцца з вамі.

Выснова першая (аптымістычная): беларускі трэці сэктар стаў за год майнейшым.

Мабілізацыйная кампанія, рухавіком якой былі грамадзкія арганізацыі, прыцягнула да ўдзелу ў выбарах мноства людзей, якія ўжо зьняверыліся былі ў пэрспэктыўнасьці "паходаў да скрынак". Няўрадавыя арганізацыі ўзмацніліся матэрыяльна, сталі больш актыўна выкарыстоўваць сучасныя тэхналёгіі працы.

Выснова другая (пэсымістычная): рост матэрыяльнай базы трэцяга сэктару апярэджвае рост кадраў.

Большасьць арганізацыяў па-ранейшаму трымаюцца на адным-двох лідарах, зыход якіх можа паралюшаваць ўсялякую дзейнасьць. Амаль не назіраецца праяваў плянаваньня людзкіх рэсурсаў у арганізацыях: прыцягненьня новых людзей, іх навучаньня. Затое квітнеюць скраданьне вынікаў чужой інтэлектуальнай працы, патаемныя інтрыгі, інфармацыйная закрытасьць, несумленнасьць.

Выснова трэцяя (рэалістычная): выжывуць наймацнейшыя.

Выжывуць, ня гледзячы на тое, што з кожным днём звужваецца поле легальнай дзейнасьці; выжывуць ня гледзячы на запалохваньні і арышты сваіх сябраў. Паколькі моц і сумленьне не заўсёды спалучаюцца ў адным целе, зычу, каб у ліку тых, хто выжыве было як мага больш тоесных сапраўднаму трэцяму сэктару. Скіраванаму на разьвязаньне праблем грамадзтва, а не на задавальненьне ўласных палітычных амбіцыяў.

А яшчэ зычу, каб мы не развучыліся зьдзіўляцца й радавацца жыцьцю. Ну хоць бы гэтак, як прадстаўніца беларускага трэцяга сэктару на здымку. Няхай нам шчасьціць у гэтым жыцьці!

**Рэдактар**

# На мяжы зьнішчэньня?



**"Ня можа быць, што вы тут за бясплатна стаіце?!" –насядала на маю суседку па пікеце ў абарону "Пагоні" яе знаёмая, якая воляй лёсу апынулася ў той час на гарадзенскай вуліцы Савецкай. "А Вам не прыходзіла ў галаву давесьці гэта вернікам у касьцёле ці царкве" – так мяне і падмывала адказаць пытаньнем на пытаньне гэтай кабеце.**

Паняцьце веры ў кожнага сваё. Вера ў Бога, вера ў праўду, вера ў каханьне, вера ў сябе, вера ў Радзіму, вера ў грошы, бязьвер'е...

**Бязьвер'е...** Усё больш схіляюся да думкі, што менавіта апошняе слова ўсё больш становіцца, як той казаў, "знакавым" для беларусаў. "Ня веру газэтам, ня веру палітыкам, ня веру, што тут можна жыць лепш, нікому і ні ў што ня веру," – такія словы за апошнія гады даводзіцца чуць усё часьцей. Дзе гасьне веры – там пачынае панаваць абыякавасьць. Гэта даўно ўжо зразумелі амэрыканцы, якія аддаюць перавагу вернікам пры разглядзе эміграцыйных дакумантаў.

**Абыякавасьць** ёсьць другім "знакавым" словам для беларусаў. Пакінулі Гародню безь беларускай школы – неяк звыкліся. Самаахвярная (уявіце ціск на бацькоў, на дзіця) спроба сям'і Мацко адстаяць канстытуцыйнае права на навучаньне дзяцей у роднай мове так і не знайшла масавай падтрымкі. Зачынілі газэту "Пагоня" – на пікет выйшлі 40 чалавек. Курапаты –месца, дзе пахаваныя тысячы бязьвінных ахвяраў камунізму, бароніць купка маладзёнаў. Штрафуюць мастака Зьміцера Іваноўскага (аднаго з арганізатараў мітынгу-рэквіему каля разбуранай сьвятыні – Фары Вітаўта) – маўчыць люд беларускі. Маўчыць прагрэсіўная інтэлегенцыя, маўчаць калегі-мастакі...

**Партэр** – вось трэцяе на сёньня знакавае слова для беларусаў. У спартыўнай тэрміналёгіі так называецца пастава (на каленях і рукамі на дыване), у якую ставяць дужбіта за пасіўныя паводзіны на дыване. Натуральна, што перавагу ў такой пазыцыі атрымлівае супернік. Улады і трэці сэктар у Беларусі сёньня хутчэй супернікі, чым партнэры. І суперніцтва гэтае ўсё больш нагадвае дужканьне ў партэры, у якой адзін з супернікаў з дазволу арбітра сьмела ўжывае і неспартыўныя прыёмы. Прыёмы, трэба сказаць, вельмі эфэктыўныя.

Амаль поўнае вынішчэньне беларускай па духу сыстэмы адукацыі, закрыцьцё альтэрнатыўных крыніц атрыманьня адукацыі і інфармацыі, вынішчэньне нацыянальнай культуры і навязваньне культуры іншай – усё гэта дазваляе сёньня "вэртыкалі" амаль цалкам кантраляваць грамадзкую думку і мінімізаваць уплыў на яе няўрадавых арганізацыяў і сродкаў масавай інфармацыі.

З партэру можна выкруціцца, а можна апынуцца на сьпіне. Выглядае на тое, што бліжэйшым часам нам толькі й давядзецца, што выкручвацца з розных пастак. Але ж гэта ня можа ператварыцца ў самамэту трэцяга сэктару! Час браць ініцыятыву ў свае рукі. Пачнем з новага году?

**Вітаўт Руднік**




## Памяць пра Фару жыве



**Мітынг-рэквіем на месцы зруйнаванай у 1961-м годзе Фары Вітаўта адбыўся 29 лістапада ў Гародні.**

Фара перанесла тры перабудовы (у час другой касьцёл быў перароблены ў праваслаўную царкву), дзьве ўсясьветныя вайны, - але ня здолела перанесьці камуністычны рэжым. 29 лістапада 1961 году а другой гадзіне ночы храм узарвалі.

Памяць пра сьвятыню жыве ў Гародні ўсе гэтыя 40 гадоў. Каля 200 чалавек рознага веку сабраліся гэтым разам на месцы, дзе раней стаяў касьцёл. Гучалі сумныя й задуменныя сьпевы, ўзносіліся малітвы. Людзі разышліся, а на месцы храма засталіся сьвечкі ды лямпадкі, агонь якіх гарэў як сымбаль надзеі на тое, што калісьці Фара Вітаўта вернецца ў Гародню.

**Вольга Швед**

**5 сьнежня адбыўся разгляд справы гарадзенскага мастака Зьмітра Іваноўскага, які абвінавачваецца ў арганізацыі несанкцыянаванай акцыі на месцы, дзе ў 1961 годзе была ўзарваная Фара Вітаўта.**

Судзьдзя Ярашэвіч прысудзіў беспрацоўнаму мастаку штраф 150 мінімальных заробкаў (каля тысячы даляраў ЗША).



# Без "ПАГОНІ": кроніка падзеяў



## 12 лістапада найвышэйшы гаспадарчы суд краіны зачыніў незалежную гарадзенскую газэту „Пагоня“




**Падставай для такога выраку нібыта сталі факты паклёпу на найвышэйшую службовую асобу дзяржавы. Рэдактар „Пагоні“ сп. Маркевіч (на верхнім здымку ў цэнтры) у камэнтары, зробленым у той жа дзень для Радыё Рацыя, заявіў, што расцэньвае закрыцьцё газэты як палітычную замову й будзе абскарджваць судовы вырак.**

Кіраўнік Цэнтру прававой дапамогі пры БАЖы Міхаіл Пастухоў мяркуе, што да прыняцьця новага закону аб друку „Пагоня“ мае магчымасьць выходзіць у электронным выглядзе. Вырак зьдзівіў ня толькі галоўнага рэдактара „Пагоні“ сп. Маркевіча, але і юрыстаў, якія да пачатку паседжаньня былі ўпэўненыя ў тым, што прававых падставаў для закрыцьця газэты няма.

Як патлумачыла для „Радыё Рацыя” юрыстка Менскай гарадзкой калегіі адвакатаў Анжэла Ратнер, якая абараняла газэту ў судзе, Найвышэйшы гаспадарчы суд прыняў вырак аб закрыцьці выданьня нібыта за абразу гонару й годнасьці прэзыдэнта, хаця факту абразы ніхто так і не пацьвердзіў. У Гарадзенскай пракуратуры яшчэ дасьледуецца крымінальная справа паводле фактаў паклёпу на Аляксандра Лукашэнку, і ня выключана, што гэтая справа будзе спыненая, напрыклад, з-за адсутнасьці складу злачынства.

Нагадаем, што 36-ы нумар газэты „Пагоня“, які стаўся падставай для ўзнікненьня канфліктанай сытуацыі, гэтак і не пабачыў сьвету. Прадстаўнікі ўлады ўбачылі ў артыкуле пра фальсыфікацыі выбарчага працэсу абразу найвышэйшай службовай асобы. На падставе гэтага Гарадзенская пракуратура 21 верасьня вынесла газэце папярэджаньне і зьвярнулася ў Гарадзенскі гаспадарчы суд з просьбай разгледзець пытаньне аб закрыцьці выданьня. Аднак раптам высьветлілася, што справу запатрабаваў сабе Найвышэйшы гаспадарчы суд. Да панядзелку адвакаты губляліся ў здагадках, чым жа гэтая „ініцыятыва“ Найвышэйшага гаспадарчага суду была выкліканая.

Згодна зь беларускім заканадаўствам, выданьне можа быць зачыненае пасьля двох папярэджаньняў цягам году. „Пагоня“ сёлета атрымала толькі адно. Акрамя таго, сумнеўнай выглядае і прычына закрыцьця выданьня: нават Дзяржкамдрук прызнаў, што калі выданьне не пабачыла сьвету (а крамольны 36-ы нумар сьвету так і не выйшаў), то нельга лічыць гэты нумар пэрыёдыкам. Юрысты гавораць пра шэраг падобных парушэньняў, якія ўтрымліваюцца ў выраку, агучаным судзьдзём Валерыем Жандаравым.



Камэнтуючы судовы вырак, рэдактар „Пагоні“ спадар Мікола Маркевіч прызнаўся, што яшчэ не асэнсаваў таго, што адбылося:

М.М.: -Поўны жах! Такое адчуваньне, як быццам судзьдзя ня ведаў, што рабіў. Але ж тут прасочваецца палітычны падтэкст гэтай справы: калі няма падставаў, але трэба зачыніць газэту, то знаходзяцца й падставы. Усе зьдзіўленыя. Будзе адпаведны міжнародны рэзананс. Мы будзем падаваць скаргу, але ж вырак робіцца правамоцным з моманту абвяшчэньня. Усё, газэта зьнішчаная. 2:0 на карысьць уладаў. Была раней зачыненая „Свабода“ – цяпер яшчэ адна газэта стане вядомая на ўвесь сьвет.

### У абарону калег

Гарадзенская гарадзкая філія Беларускай Асацыяцыі Журналістаў

прыняла 14 лістапада заяву з нагоды закрыцьця гарадзенскай газэты "Пагоня".

У заяве гаворыцца: "12 лістапада Найвышэйшы Гаспадарчы Суд Рэспублікі Беларусь прыняў пастанову аб закрыцьці незалежнай газэты ПАГОНЯ. Вырак, зроблены судзьдзём Валерыем Жандаравым, не ґрунтуецца ані на Законе, ані на фактах...Усе абставіны гэтай ганебнай справы сьведчаць пра палітычную абумоўленасьць судовага выраку.

Гарадзенская філія Беларускай Асацыяцыі Журналістаў пратэстуе супраць беспадстаўнага закрыцьця газэты ПАГОНЯ".



### Баранілі Пагоню

Акцыя, прысьвечаная закрыцьцю недзяржаўнай газэты ПАГОНЯ, адбылася 19 лістапада ў Гародні.

Каля пяцідзесяці журналістаў беларускіх мэдыяў, прадстаўнікі грамадзкіх арганізацыяў і партыяў разам з чытачамі зачыненай газэты стварылі ланцуг уздоўж вуліцы Савецкай.

У руках людзі трымалі плакаты "Вярніце мне ПАГОНЮ", "ПАГОНЮ зачыніў лукашэнкаўскі суд", "Пракуроры, не чапайце ПАГОНЮ, займайцеся бандытамі!"

Журналісты забароненага выданьня апранулі кашулькі з надпісамі "12 лістапада ўлады ліквідавалі газэту ПАГОНЯ. Я – журналіст. Я наступны?" А мінакам раздавалі туалетную паперу – як "ідэал лукашэнкаўскай прэсы" (на здымку ўгары).

Рэдактар ПАГОНІ, Мікола Маркевіч, а таксама журналісты Павал Мажэйка і Анджэй Пісальнік, па заканчэньні акцыі "былі запрошаныя" ў Ленінскі РАУС.

Разгляд справы быў прызначаны на 20 лістапада. Высьветлілася, аднак, што судзьдзі спатрэбіцца прагляд відэастужкі, падрыхтаванай міліцэйскім апэратарам. З гэтай нагоды судовае паседжаньне было перанесенае. Анджэя Пісальніка судзілі 21 лістапада, а Паўла Мажэйку – 22 лістапада. Вырак быў абвешчаны 26-га лістапада. Судзьдзя Дзёмчанка вынес абодвум журналістам папярэджаньні за ўдзел у несанкцыянаваным пікеце.

## Рэдактара ПАГОНІ аштрафавалі на паўмільёны рублёў

**Штрафам у памеры 50 мінімальных заробкаў быў пакараны галоўны рэдактар ПАГОНІ Мікола Маркевіч. Гэткі вырак 13 сьнежня вынес судзьдзя па адміністрацыйных справах Ленінскага раённага суду Гародні ЗьміцерДземчанка.**

Журналіста абвінавацілі ўва ўдзеле ў несанкцыянаваным пікетаваньні, які адбыўся ў знак пратэсту супраць закрыцьця ПАГОНІ 19-га лістапада гэтага году ў Гародні.

Мікола Маркевіч сваёй віны не прызнаў. Камэнтуючы пастанову судзьдзі, ён падкрэсьліў, што Канстытуцыя краіны гарантуе чалавеку права пратэставаць супраць незаконных дзеяньняў уладаў. Таксама журналіст адзначыў наступнае: "Тое, што гэтыя ўлады панаставалі антыканстытуцыйных законаў і на гэтай падставе судзяць сваіх палітычных апанэнтаў – сьведчыць пра амаральнасьць гэтай улады."

– Слова "юстыцыя", у перакладзе з лаціны, азначае правасудзьдзе. Аднак, як паказвае сёньняшні судовы вырак, беларускія судзьдзі, на маю думку, гэтага ня ведаюць. Гэтая пастанова – чарговая пляма на й без таго брудным мундуры беларускай юстыцыі, – заявіў Мікола Маркевіч адразу пасьля суду.

**Паводле Інтэрнэт-вэрсіі газэты "Пагоня"**

## Неабыякавых за краты?

**Два чалавекі былі затрыманыя міліцыяй 9 сьнежня падчас акцыі "Ланцуг неабыякавых людзей" ў Гародні. Адной з затрыманых была актывістка гарадзенскай "Маладой грамады" Сьвятлана Нех.**

Акцыя была арганізаваная ў розных гарадох Беларусі АГП у рамках кампаніі "Хочам ведаць праўду". Удзельнікі акцыі трымалі ў руках партрэты зьніклых Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага, Зьмітра Завадзкага.

**Паводле Радыё Свабода**





## Шосты набор Школы прыняў прысягу



**Урачыстае адкрыцьцё праекту "Школа маладога журналіста-6" адбылося 18 лістапада ў Гародні.**

**Асьветніцкі праект "Школа маладога журналіста" рэалізуецца грамадзкім аб'яднаньнем "Цэнтр "Трэці сектар" з 1997 году. Сёлета ўдзел у ім возьмуць навучэнцы шостага набору. На працягу лістапада 2001 г. – красавіка 2002 г. яны будуць знаёміцца із спэцыфікай журналісцкае справы, стажыравацца ў рэдакцыях гарадзенскіх выданьняў.**

**У час прэзэнтацыі маладыя журналісты пазнаёміліся з гісторыяй "Школы", яе выкладнікамі, а таксама прынялі прысягу, тэкст якой быў складзены журналістамі розных беларускіх выданьняў, запрошанымі на вечарыну.**



***Вітаўт Руднік, старшыня праўленьня грамадзкага аб'яднаньня "Цэнтр "Трэці сектар", рэдактар часапісу "Трэці сэктар":***

*Для сьвяточных віншаваньняў запазычу словы свайго сябра з Магілёву Ігара Шарага: Зычу вам, калегі, паразуменьня і шчырасьці. Няхай вам заўжды будзе ставаць уменьня выслухаць і памкненьня зразумець. Няхай вас заўжды чуюць і правільна разумеюць людзі, зь якімі вы працуеце. Няхай шчырасьць будзе вам у дапамогу, а праўда - ня ў цяжар. А яшчэ зычу кожнаму з вас здароўя, асабістага шчасьця, аптымізму!*

## Для тых, хто працуе з моладзьдзю



Сьвятлана Кандрашова („Наша Салідарнасьць") і Наталя Трус („Воля да разьвіцьця"). Трэнінг „Асновы лідэрства і працы зь людзкімі рэсурсамі", лістапад 2001 г.

**Працягваецца рэалізацыя праекту "Павышэньне эфэктыўнасьці дзейнасьці грамадзкіх арганізацыяў Гарадзеншчыны", удзел у якім бяруць сябры 20 арганізацыяў і ініцыятыўных груп. Праект ладзяць грамадзкія аб'яднаньні "Трэці сектар" і "Віт" пры падтрымцы праграмы TACIS.**

На працягу кастрычніка – сьнежня актывісты трэцяга сэктару з Астраўцу, Ашмянаў, Смаргоні, Слоніму, Мастоў, Ліды, Краснасельскага, Наваградку, Гародні атрымлівалі карысныя веды па арганізацыі сувязяў з грамадакасьцю і працы з журналістамі, па плянаваньні дзейнасьці і працы зь людзьмі ў арганізацыі. Прадстаўнікі незарэгістраваных ініцыятыўных груп змаглі атрымаць кваліфікаваныя кансультацыі пра тое, як падрыхтаваць дакументы для рэгістрацыі грамадзкага аб'яднаньня.

Будуць праведзеныя таксама два круглыя сталы, на якіх будуць абмяркоўвацца пытаньні ўзаемных стасункаў паміж прадстаўнікамі грамадзкіх арганізацыяў, мясцовых уладаў і журналістамі. На вясну запланаванае правядзеньне Форуму маладзёвых арганізацыяў Гарадзеншчыны. Удзел у праекце бяруць больш за 20 грамадзкіх арганізацыяў і ініцыятываў, якія займаюцца працай з моладзьдзю.

# Сьвятлана Курс: Гендэрныя стэрэатыпы ў беларускіх мэдыях і маскультуры

*"..Таму што жаночая праца ніколі не завершваецца і не аплочваецца ці аплочваецца ніжэй, або яна сумная ды аднастайная, і нас першымі звальняюць, і тое, як мы выглядаем, больш важнае за тое, што мы робім, і калі нас згвалцяць, то гэта нашая віна, і калі нас паб'юць, значыць, мы самі гэта справакавалі, і калі мы падвышаем голас, то мы скандалісткі, і калі атрымліваем задавальненьні ад сексу, значыць, мы німфаманкі, а калі не – то фрыгідныя, а калі мы чакаем клопату пра нашых дзяцей ад грамадзтва, то мы эгаістычныя, а калі адстойваем свае правы, то мы агрэсіўныя й нежаноцкія, і калі не, то мы тыповыя слабыя жанчыны, і калі мы хочам замуж – значыць, мы палюем на мужчыну, а калі ня хочам, то мы ненармальныя, і... зь іншых прычын мы ўдзельнічаем ў жаночым руху ".*

***Джой Стывэнс***

"Гендэр" азначае сацыяльную канструкцыю полу. "Гендэрныя дасьледваньні" – гэта вывучэньне таго, як грамадзтва вызначае сацыяльныя ролі мужчынаў і жанчын і якія гэта мае наступствы для грамадзтва (у т.л. у сфэры працы й культуры), сям'і, для разьвіцьця асобы мужчынаў і жанчын (дэфініцыя Алены Гапавай).

Магчымасьці чалавека ў грамадзтве, рэалізацыя гэтых магчымасьцяў павінныя як наймага менш вызначацца іхным полам – у гэтым і праяўляецца гендэрная роўнасьць.

Журналісты, якія пішуць на тэму гендэрнай роўнасьці, жартуюць, што Беларусь – радзіма першай фэміністкі. Маецца на ўвазе княгіня Рагнеда, якую гвалтоўна ўзяў замуж кіеўскі князь Уладзімер, і якая спрабавала скінуць яго з пасаду і нават забіць.

Адно з важных месцаў у беларускай гісторыі належыць княгіні Эўхврасіньні, якая заснавала школы й дамаглася таго, што беларускія жанчыны найвышэйшага стану атрымалі доступ да адукацыі (праўда, дзеля таго ім даводзілася стацца мнішкамі). У Статуце Вялікага Княства Літоўскага 1588 г. прадугледжанае для жанчын права на распараджэньне маёмасьцю, усталёўваў абавязковую долю жанчыны ў спадчыне, касаваў сьмяротнае пакараньне для цяжарных. Такіх палажэньняў не было ў бальшыні эўрапейскіх краін.

## Факты й лічбы

Дасягненьне роўнасьці жанчын і мужчын, ліквідацыя ўсіх формаў дыскрымінацыі жанчын, забесьпячэньне іхнага раўнапраўнага ўдзелу ў кіраваньні дзяржаваю і эканомікай – гэтыя (і іншыя) задачы ставіліся на Пэкінскай канфэрэнцыі па становішчы жанчын у 1995 г. Менавіта там былі прынятыя Дэклярацыя й Пляцформа дзеяньняў па дасягненьню гендэрнай роўнасьці. Выніковыя дакумэнты канфэрэнцыі ратыфікавала й Беларусь. Цяпер на нас і на нашай дзяржаве ляжыць абавязак актыўна працаваць у такіх сфэрах, як жанчына й правы чалавека, жанчыны й навакольны асяродак, жанчыны й мас-мэдыі, выхаваньне дзяцей у духу гендэрнай роўнасьці.

Улетку 2000 г. прайшла адмысловая сэсія Генэральнай асамблеі ААН „Жанчыны ў 2000 г.: роўнасьць жанчын і мужчынаў, разьвіцьцё й мір у XXI ст.". Выступаючы на адкрыцьці сэсіі, памагатарка Генэральнага сакратара ААН па гендэрных пытаньнях і падвышэньні статусу жанчын Анжэла Кінг станоўча ацаніла намаганьні нашай краіны палепшыць становішча жанчын. Гэтак, быў адзначаны Плян паляпшэньня стану жанчын на 1996-2000 г.г. Беларускае прадстўніцтва ААН падтрымала два



Сьвятлана Курс („Радыё Рацыя")

ўрадавыя праекты „Жанчыны ў працэсе разьвіцьця " й „Падтрымка Цэнтру гендэрнай інфармацыі й палітыкі Міністэрства сацыяльнай абароны".

Аднак малаверагодна, што гендэрная роўнасьць можа ўсталявацца аднымі намаганьнямі зьверху. Жанчыны й мужчыны Беларусі павінныя працаваць самі, каб пераадолець гендэрныя стэрэатыпы, якія замінаюць напоўніцу рэалізаваць чалавечы патэнцыял. Вось некалькі лічбаў:

- сярод агульнай колькасьці беспрацоўных, зарэгістраваных на 1 студзеня 2000 г., жанчыны складалі 64,2%;
- доля жанчын, занятых у сфэры дзяржаўнага кіраваньня, зьмяншаецца зь пераходам на больш высокі ўзровень кіраваньня. Сярод чыноўнікаў многіх міністэрстваў жанчыны складаюць больш за 50%, але у складзе ўраду толькі адная жанчына – міністар, і 10 жанчын – намесьніцы міністраў.



- самы фэмінізаваны горад Беларусі – Салігорск: старшыня гарвыканкаму, старшыня гарсавету, намесьніца старшыні выканкаму па ідэалёгіі, загадчыца РАНА – жанчыны;
- паводле сацыялягічных апытаньняў, у 52% сем'яў мае месца псыхалягічны гвалт, а ў 6 % – фізычны;
- у некаторых сфэрах занятасьці заробак жанчын на 30% меншы, чым у мужчын;
- на 138 народжаных прыпадае 100 спаронаў (у 1995 г. 184:100).
- паводле зьвестак Управы ў справах маральнасьці й абароту наркотыкаў (УСМАН) МУС, з 1995г. да 2001 г. у 10 разоў павялічылася колькасьць жанчын, прыцягнутых да адказнасьці за прастытуцыю;
- на 62 тыс. шлюбаў у 2000 г. прыпадала каля 43 тыс. спаронаў;
- за прастытуцыю ў 2000 г. прыцягнута да адказнасьці каля 1000 жанчын.

Жанчыны складаюць 53% насельніцтва краіны й 52,4% працоўнай сілы. Яны сканцэнтраваныя ў асноўным у такіх сфэрах гаспадаркі, як ахова здароўя, фізычная культура й сацыяльнае забесьпячэньне (82,9% усіх занятых у гэтых сфэрах), адукацыя (79,7%), гандаль (73,2%), культура (73,6%). Структура іхнай прафэсійнай дзейнасьці адлюстроўвае сыстэму роляў, якія скláліся ў сям'і. Жанчыны працуюць у сфэрах, якія традыцыйна фінансуюцца па "рэштkавым прынцыпе". Гэта адбіваецца на заробках. І гэта можна назваць прафэсійнай сэгрэгацыяй – канцэнтрацыя асобаў аднаго полу ў прафэсіях, якія аплочваюцца ніжэй, чым астатнія.

На канец 1999 г. агульныя суадносіны заробкаў выяўляліся прапорцыяй 100:84,9. Найбольш яскравая дыспрапорцыя ў сфэры крэдытаваньня, фінансаў, страхаваньня, дзе жанчыны складаюць 75% усіх працаўнікоў. Пры гэтым іхны заробак складае 71,4% от заробку мужчын. Гэта абумоўлена наперш тым, што сярод кіраўнікоў у гэтай сфэры жанчыны складаюць толькі 13, 5 %, а сярод галоўных спэцыялістаў – толькі 5,3%.

Паводле лябараторыі НОВАК, 11% женщин асабіста траплялі ў сытуацыю, калі ім за адную й тую ж працу плацілі меней, 10,2% назіралі гэта ў адносінах да іхных сваякоў, 14,5% – у адносінах да сяброў і знаёмых.

Паводле сацыялягічных апытаньняў, 26,8% усіх жанчын, якіх адмовіліся ўзяць на працу, заявілі, што ім адмовілі з-за ўзросту (старэйшага або маладзейшага, чым "трэба"), 13,9% - з-за наяўнасьці малых дзяцей, 9,8% – з-за таго, што жанчын проста не хацелі браць на працу.

Узровень адукацыі ў гэты сьпіс не патрапіў: беларускія жанчыны больш адукаваныя за мужчын. Яны складаюць 58,4% працаўнікоў з вышэйшай адукацыяй і 65,8% – з сярэдняй спэцыяльнай. У нашай краіне дасюль квітнее стэрэатып, што ёсьць мужчынскія й жаночыя прафэсіі. Жаночымі лічацца пэдагогіка (75% жанчын), лёгкая й тэкстыльная прамысловасьці (84%), харчовая прамысловасьць (79%), эканміка (69%), мэдыцына (69%). У той жа час радыётэхнічныя спэцыяльнасьці набываюць толькі 6% жанчын, аўтаматызацыяй вытворчасьці займаюцца 19%. Гендэрныя дыспрапорцыі ясравыя нават у самай сфэмінзаванай сфэры – адукацыі. Каля 80% усіх занятых у пэдагогіцы – жанчыны. Аднак сярод дырэктараў школ яны складаюць толькі 47,7%. Сярод выкладнікаў ВНУ жанчын таксама каля паловы. 13,2% маюць ступень доктара, 36,2% - кандыдата навук. З 42 дзяржаўных ВНУ пасаду рэктара займаюць толькі 2 жанчыны.

## Новая гендэрная палітыка?

Дэмаграфічны і маральны стан грамадзтва, хацелася бы верыць, зрушыў наш урад у бок новае гендэрнае палітыкі.

За апошнія 6 гадоў у Беларусі прынятыя 15 дакумэнтаў, якія маюць на мэце палепшыць стан жанчын, дзяцей, сям'і. У Працоўным Кодэксе зьявіўся панатак "працоўныя зь сямейнымі абавязкамі". Нарэшце, быў распрацаваны Нацыянальны плян дзеяньняў па забесьпячэньню гендэрнай роўнасьці на 2001 –2005 г.г.

Адным зь першых пунктаў Нацыянальнага пляну значыцца распрацоўка ў 2002 г. праекту закону "Аб роўных магчымасьцях". У ім будзе выразна пазначана, што ёсьць парушэньне правоў мужчынаў і жанчын і якую адказнасьць гэта цягне за сабой. Да 2005 г. будзе прааналізаваная ўся заканадаўчая база краіны, каб выявіць неадпаведнасьці ў галіне гендэрнай роўнасьці. Міністэрству адукацыі трэба будзе перагледзець падручнікі, навучальныя праграмы, ды вызваліць іх ад гендэрных стэрэатыпаў. Асобным пунктам нават пазначана "выяўленьне пэрспэктыўных кандыдатак на кіраўнічыя пасады й падрыхтоўка іх да адказнай працы.

Аднак ператварэньне жанчыны ў паўнаварты суб'ект палітычнага, эканамічнага ды іншага партнэрства праходзіць ня так лёгка. Шмат хто з жанчын не гатовы да гэтага.

Так, бальшыні студэнтак менскіх ВНУ роля "прывабнай жанчыны" ўяўляецца самай значнай у жыцьці. Хаця 90% апытаных заявілі, што імкнуцца да самастойнасьці, адказы на канкрэтныя пытаньні давялі, што насамрэч такіх ня больш за 50%. Вывучэньне сацыяльнай арыентацыі дзяўчат выявіла, што бальшыня арыентаваная на выкананьне традыцыйных жаночых роляў: маці, жонкі, гаспадыні.

Сталічныя студэнткі ня толькі адраджаюць старыя стэрэатыпы, але й дапаўняюць іх новымі, скапіяванымі з узораў заходняй маскультуры, якія прапагандуюць ролю "прывабнай жанчыны", "каханкі". Дзяўчаты пачынаюць ставіць жыцьцёвы посьпех у залежнасьць ад свае папулярнасьці сярод мужчынаў. У канфліктных сытуацыях бальшыня студэнтак ВНУ дэманструюць гатовасьць да кампрамісу. Найбольшай праблемай, на думку спэцыялістаў, зьяўляецца неразуменьне жанчынамі сутнасьці гвалту. Гэтак, бальшыня разумее пад гвалтам толькі фізычнае ўзьдзеяньне, а ніяк не эканамічнае ці псыхалячнае. Дадам, што гэта вынікі дасьледваньняў, якія праводзіліся Цэнтрам гендэрнай інфармацыі пры Міністэрстве сацыяльнай абароны.

## Прэзыдэнт

Асноўным стваральнікам і героем беларускай маскультуры зьяўляецца прэзыдэнт Лукашэнка. На жаль, ягоныя выказваньні адносна гендэрнай

роўнасьці могуць выклікаць толькі засмучэньне. Мяркуючы па тым, што гаворыць кіраўнік нашай дзяржавы, усе пляны па дасягненьні гендэрнай роўнасьці застануцца на паперы. Падчас сваіх прамоваў на 8 сакавіка (Дзень жанчыны) й 14 кастрычніка (Дзень маці) Лукашэнка ня раз выказваў думку, што асноўная місія жанчыны ўсё тая ж – маці, жонка, каханка. Прытым прэзыдэнт хваліць мужнасьць беларускай кабеты, якая знаходзіцца на самых цяжкіх участках народнай гаспадаркі: "наша краіна стаіць на жанчынах," – дае зразумець прэзыдэнт.

Аднак сёлета ўвосені, наведваючы парлямэнт, прэзыдэнт выказаўся, што ня лічыць патрэбным падвышаць выплаты на дагляд за дзіцем, якія складаюць мізэрную суму: недзе каля 15 даляраў ЗША. "*Я тут ні пры чым. Хай гэтых дзяцей кормяць іхныя таты. Дзяржава можа дапамагчы толькі пошукам гэтых дзевачой, што нарабілі ім дзяцей і ня хочуць іх карміць,*" – прыкладна гэткі быў сэнс выказваньня найвышэйшай асобы нашае дзяржавы. Фактычна гэта азначае, што беларускія жанчыны не атрымаюць нічога, апроч рытуальных панэгірыкаў двойчы на год.

Прывяду некалькі вельмі характэрных цытат з выступаў прэзыдэнта. На маю думку, яны не патрабуюць адмысловага камэнтару.

„*Пускай Антончик едет за границу. Я ему куплю билет. А жену и детей его обеспечу, возьму на свое содержание!*“ (А.Лукашэнка. БТ, "Панарама", жнівень, 1995 г.).

„*О, женщины — это мои избиратели. Вот говорят, что Лукашенко одни женщины поддерживают. А я говорю: дай Бог, чтоб так было до конца жизни… И страна будет наша — женская. А я буду у вас руководителем партии вашей…*“ (А.Лукашэнка. З размовы з жыхарамі мікрараёну „Малінаўка“ г. Менску. „Свабода“, 08.10.1996 г.)

„*Я считаю, что члены моей семьи не должны влезать в политику. У вас, к примеру, есть жена? Что она, глупее моей жены? Но она же не редактирует Вашу газету? Нет. И нечего женам делать в государственных делах… И я считаю, что когда какой–нибудь государственный деятель с супругой из самолета за руку идут и вообще публично демонстрируют любовь - это все зачастую показуха. Игра на публику. Я к этому не привык. Да и не в традициях это нашего народа — демонстрировать везде и всюду свое семейство. Да, есть жесткие протокольные нормы и так далее. Но у меня другая политика. Меня люди в Беларуси понимают. Иногда желтая пресса подпускает обывательские шпильки по поводу моей жены. Мол, вот бедная женщина сидит в деревне и лопатой копает землю каждый день. Тут надо разбираться. А может, и хорошо, когда человек ближе к земле… У меня ведь нет даже квартиры своей. И жена продолжает жить в том, уже легендарном, деревенском доме… Да и что это за расстояние? Проблемы большие? Или что мы, молодожены, по 18–19 нам лет? И каждую минуту нужно видеться? Поэтому не переживайте, все нормально*“ („Советская Белоруссия“, 14.10.1997 г.)

„*Самое большое достоинство президентов, больших политиков — это когда никто не знает об их детях и других членах семьи.*“ („Советская Белоруссия“, 14.11.1997 г.)

## Гендэрныя стэрэатыпы ў тэлевізіі

Тэлевізія ёсьць зараз самым важным сродкам масавай інфармацыі. Вобразы, героі ды ідэі, прэзэнтаваныя ў "скрыньцы", глыбока ўзьдзейнічаюць на пераканаьні, стыль жыцьця, паводзіны й патрэбы гледачоў. Менавіта патрэбы – асабліва падатлівы матэрыял для тэлерэклямы, якая падае гатовыя ўзоры для перайманьня. Менавіта рэкляма стварае новыя патрэбы і дыктуе стылі паводзінаў. Польская фэміністка Барбара Пяткевіч піша: "Грамадства ўспрымае жанчын так, як іх малюе тэлевізія". А сёньня, падчас камэрцыялізацыі нашага жыцьця, вобраз жанчыны ствараецца з улікам густаў мільёнаў гледачоў тэлевізійнай рэклямы і мільёнаў спажыўцоў рэклямаванага тавару.



Бальшыня вытворцаў слушна лічыць, што жанчыны – найважнейшая патэнцыяльная група спажыўцоў, таму менавіта жанчынам часта адрасуюцца рэклямныя кампаніі. Існуе дзьве прычыны зацікаўленасьці ў жанчынах-спажывачках рэклямы. Па-першае, бальшыня рэклямных ролікаў заклікае да набыцьця ежы, касмэтыкі, гаспадарчай хіміі - прадуктаў, які штодзень ужываюць жанчыны. Па-другое, бальшыню пакупак нагул робяць жанчыны.

У Беларусі менавіта жанчыны традыцыйна плянуюць сямейны бюджэт, вядуць хатнюю гаспадарку, загадваюць харчаваньнем, абнаўленьнем вопраткі, інтэр'еру, пабытовых прыладаў і г.д. Мужчыны часьцей за ўсё набываюць "рэдкія" пакупкі – аўдыёвідэатэхніку, аўтамабілі і да т.п.

Спэцыялісты рэклямы кажуць, што найпрасьцейшы спосаб здабычы кліента – гэта зварот да стэрэатыпаў, якія вызначаюць герархію ды парадак у грамадзтве; якія адбіваюцца у паўсядзённым жыцьці, паводзінах, разьдзеле хатніх абавязкаў, у рытуалізаваных формах грамадзкага жыцьця. Менавіта таму кабеты ў рэклямах, аж у 2/3 выпадкаў, выступаюць у ролі хатніх гаспадынь, а ў астатняй трэціне выпадкаў прэзэнтуюцца як сэксуальны аб'ект. Жанчыны ў 3 разы часьцей зьяўляюцца ў рэклямах, чым мужчыны, і амаль заўжды ў стэрэатыпных ролях. У выніку рэкляма ня толькі зьвяртаецца да стэрэатыпаў, каб найлепей прадаць прадукт; ня толькі ўзмацняе старыя, культурна здэтэрмінаваныя стэрэатыпы, а ў значнай ступені спрычыняецца да стварэньня новых стэрэатыпаў, ня менш згубных.

У рэкляме можна выдзеліць два аноўныя стылі: клясычны – які зьвяртаецца да традыцый і зьвязаных зь імі стэрэатыпаў; і сучасны – які выкарыстоўвае зьместы й сымбалі, успрыманыя людзьмі як сучасныя, модныя й экстравагантныя (сёньня такой рэклямнай модай стала напрыклад, сучасная кабета актыўнай прафэсіі, дасьведчаная й адукаваная спажывачка найсучаснейшых прадуктаў).

Абодва падыходы сустракаюць разуменьне ў нашым грамадзтве. Рэкляма прапагандуе стары добры вобраз сям'і: муж і жонка з двума дзецьмі (найлепш разнаполымі); мужчына як галава сям'і забясьпечвае яе ўтрыманьне, жанчына не працуе альбо працуе для ўласнага задавальненьня, а насамрэч ейная галоўная рэалізацыя – весьці дом. Жыцьцё ў Беларусі выглядае цалкам інакш: больш за 80% беларускіх жанчын працуе, і далёка ня толькі з-за сваіх амбіцыяў, а папросту для эканамічнага выжываньня сям'і. Вялікая частка глядацкае аўдыторыі ўсьведамляе такі разлом паміж рэклямнай фікцыяй і рэальным жыцьцём, і гэта сталася адной з прычын таго, што жанчыны часта выказваюць раздражненьне рэклямамі хатніх тавараў, пабытовай хіміі ды сродкаў гігіены.

Дасьледаваньні сацыёлягаў паказваюць, што грамадзтва (людзі абодвух палоў) лічаць, што жанчыны лепей пасуюць да рэклямы пральных парашкоў, шампуняў ды прадуктаў, у той час як мужчыны найлепей пасуюць да рэклямы піва, кампутараў ды аўтамабіляў. Высновы падобных дасьледаваньняў абумоўленыя традыцыйнай культурай і сьведчаць пра жывасьць стэрэатыпных поглядаў на тэму адрознасьці мужчынаў ды жанчын.

З шэрагу апытаньняў вынікае, што жанчыны й мужчыны найвышэйшай каштоўнасьцю жыцьця лічаць шчасьлівы сямейны побыт ды ўцеху зь дзяцей. Рэклямы карыстаюцца з гэтых жаданьняў і ўсяляк падтрымліваюць ілюзіі такой шчасьлівасьці. Яны ствараюць ідэальны сьвет, у якім усё лёгка набываецца, прыхарошваюць штодзённую працу жанчын, малюючы яе ледзь не як рытуальную магію. Для мільёнаў жанчын, якія штодня рэалізуюцца ў традыцыйнай ролі хатняй гаспадыні, такія рэклямы раздражняюць, але й бываюць крыніцай задавальненьня, бо паказваюць цяжкую й нудную працу шляхетнай і патрэбнай.

У патрыярхальным грамадзтве жанчыну пераконваюць, што толькі дагледжанае жыльлё й задаволеныя фізычныя патрэбы сям'і сьведчаць, што жанчына спраўляецца з грамадзка важнай роляй.

Як сэксуальныя і / або эстэтычныя аб'екты жанчыны робіцца прыгажэйшыя, дзякуючы той ці іншай касмэтыцы; а прафэсіяналкам у працы зь людзьмі (стуардэсам, настаўніцам, перакладніцам) найлепш дапамагае той ці іншы дэзадарант ці цукерка для асьвяжэньня рота. Жанчыны – аб'екты й суб'екты сэксуальнага жаданьня – з дапамогай рэклямаванага прадукту набываюць здольнасьць прыцягваць мужчын. Атрымліваецца, што жанчына можа выбіраць толькі зь дзьвюх роляў: традыцыйная жанчына або жанчына, эмансыпаваная выключна ў аспэкце нястрымнага спажываньня.

Такая тыпалёгія дзеліць жанчын на матак, жонак і каханак. Гэтая тыпалёгія мае доўгую мінуўшчыну й, падобна, будучыню. Цікава адзначыць той факт, што маткі, жонкі й каханкі – тыпы, якія рэдка ўзаемапранікаюцца ў рэклямным сьвеце. Жанчыны "традыцыйныя" зьяўляюцца без макіяжу, у шырокіх строях пастэльных калёраў, звычайна ў доме, лазенцы, кухні, а не – дык у краме на фоне паліц з прадуктамі. У гэтым выпадку працуе прынцып ідэнтыфікацыі патэнцыйнай кліенткі з рэклямнай гераіняй. Яны не павінныя быць лепшыя за нас. Затое "сучасныя" жанчыны звычайна добра нафарбаваныя, сэксуальна апранутыя, маюць свой стыль, дынамічныя і зьяўляюцца ня толькі ў хатнім атачэньні.

Наймацнейшым стэрэатыпам у беларускім грамадзтве падаецца вобраз маткі. Матка – карміцелька й апякунка – мусіць пастаянна рэагаваць на тое, што рэшта сям'і хоча есьці. Асабліва гэты стэрэатып падзелу сямейных роляў праяўляецца ў рэклямах, якія дэманструюць працэс прыгатаваньня й паяданьня ежы. У іх выразна бачна, што абавязкам маткі ёсьць пастаяннае ахвяраваньне часу й сілаў на карысьць сям'і. Калі ў краме зьяўляецца новы ёгурт, то сын задумваецца: а ці мама ведае пра яго? Жанчына замілавана купляе кефір Danone для свайго мужа Сярожы, бо той змалку прывык піць смачны кефір. Рэклямы, дзе жанчына выступае ў якасьці быццам бы маткі свайго мужа, не такая ўжо й рэдкасьць. Вось два вясёлыя зухі – бацька з сынам – бягуць у брудных джынсах з футболу – хто памые нагавіцы? Вось клапатлівы муж хацеў зрабіць неспадзяванку для жонкі – згатаваць рыбу. Пасьля паяданьня неспадзяванкі жонка, па-мацярынску ўсьміхаючыся, замывае ад рыбы мужавы манжэты.

На жаль, стэрэатыпы, закладзеныя ў дзяцінстве, цяжка пераадольваюцца. Дзеці прывыкаюць да вобразаў, калі выпацканыя й галодныя гарэзы – тата з сынам – бягуць у кухню, дзе шчыруюць бабуля, мама, дачка. Рэклямныя маткі рэдка пакідаюць кухню. Ім не давяраюць ролю асобаў, якія тлумачаць дзіцяці, што ёсьць сьвет, яны не адказваюць за інтэлектуальнае разьвіцьцё дзіцяці. Іх ролю ёсьць дагляд сям'і й пільнаваньне чысьціні. Жаночыя гулянкі й захапленьні не паказваюць – хіба што сумеснае выпяканьне сьвяточных прысмакаў.

Цяпер пагаворым пра рэклямы, дзе жанчына выступае ў якасьці прадмету культу й сэксуальнага жаданьня. У рэклямах касмэтыкі зьяўляюцца кабеты-феі, німфы, вампы, якія жывуць выключна на пляжах, лугах, подыюмах ці іншых рамантычных, фантазійных прасторах. Тут няма месца фэміністкам або хатнім гаспадыням. Толькі нешматлікія вытворцы пускаюць у ролікі сталых кабет. Нават у рэклямах крэмаў супраць зморшчын не зьяўляюцца сталыя кабеты, для якіх, уласна кажучы, і робіцца такія крэмы.

Пасыл такіх ролікаў вельмі дзейсны і просты: ты павінная гэтым карыстацца, бо гэта адзіны ратунак для тваё скуры. У рэклямах зьяўляюцца эфэктныя, але малаінфармацыйныя назвы крэмаў і інгрэдыентаў, якія дзейнічаюць, як шаманскі заклён. Гэты сродак можа пасаваць адной ці дзьвюм кабетам з сотні, але вязьнямі свайго цела ці дому робяцца тысячы жанчын.

Мужчынскае цела не ацэньваецца так сурова, як жаночае. Няма размовы пра мужчынскую красу ці лішнюю вагу. Абумоўлены культураю прымус быць прыгожым іх не датычыць. Мужчынскае цела як эстэтычны аб'ект зьяўляецца (часта побач з жаночым) у асноўным у рэклямах для маладзейшага спажыўца.

Жаночае цела часта выкарыстоўваецца як у рэклямах для мужчын, напрыклад, у рэклямах самаходаў. Асабліва гэтым хварэюць ролікі беларускай вытворчасці. Тут жанчына або

высоўвае ногі зь дзьверцаў, або сэксуальна раскідваецца на фатэлях. Кабета часта зьяўляецца ў рэкламах, каб зьнікнуць, прайграўшы суперніцтва з файным аўтамабілем, смачным бульбяным пюрэ "Анега" ці новым гатункам піва. Жанчына паўстае ў такіх роліках як асобы, якія мараць толькі пра адно, прызначаныя толькі для аднаго і могуць на гэта пачакаць.

Апошнім часам зьяўляюцца рэклямы, якія паказваюць прадстаўнікоў абодвух палоў у новых, незвычайных ролях. Жанчыны рэклямуюць аўтамабілі ды мабільныя тэлефоны, а мужчыны працуюць па дому. Ёсьць спадзяваньне, што сытуацыя будзе зьмяняцца дзякуючы зьменам у Заходняй Эўропе й Амэрыцы. Моды да нас прыходзяць найчасьцей адтуль, хаця часам інтэрпрэтаваныя праз Расею.



На экране беларускай тэлевізіі жанчыны зьяўляюцца часта, хаця і крыху радзей, чым мужчыны. Суадносіны недзе 45:55 на карысьць мужчын. Аднак і надалей на тэлевізіі пануе падзел роляў: здароўем і сацыяльнымі праблемамі часьцей займаюцца жанчыны, мужчыны гавораць пра аўтамабілі ды спорт. Палітычную аналітыку робяць мужчыны, а рэпартажы зь месца палітычных падзеяў у асноўным робяць жанчыны (праўда, і тыя і другія робяць гэта вельмі непрафэсійна). Інтэлектуальныя гульні вядуць найбольш мужчыны. Голас за кадрам, які выступае ў якасьці экспэрта, таксама найчасьцей мужчынскі. Жанчыны, якіх паказвае нам беларуская тэлевізія, апранутыя найчасьцей у традыцыйным стылі: гарнітур з блюзкаю ці вечаровы строй. Зрэшты, мужчыны таксама мала вылучаюцца экстравагантнасьцю: звычайна яны зьяўляюцца ў гарнітурах з гальштукамі.

Жанчыны-выступоўцы звычайна прэзэнтаваныя ў якасьці працаўніц ніжэйшага звяна, жонак славутых мужоў, шматдзетных матак, прасіцелек і скаржніц. Жанчыны бізнэсу, палітыкі, кіраўніцы прадпрыемстваў зьяўляюцца досыць рэдка. Гэта якраз адбівае рэальнае становішча жанчыны ў беларускім грамадзтве. Агульнавядома, што ў сфэры прыняцьця пастановаў беларускія жанчыны прэзэнтаваныя слаба.

## Гендэрныя стэрэатыпы ў газэтах

Аналізаваць прэсу на тэмат гендэрных стэрэатыпаў даволі складана хаця бы таму, што адна й тая ж самая газэта можа сёньня зьмясьціць вельмі прагрэсіўны матэрыял па гісторыі фэмінізму, а заўтра выдаць цэлы букет самых махровых гендэрных стэрэатыпаў. Я ня буду называць імёны аўтараў артыкулу, якія працытую ніжэй.

Найбольшая колькасьць стэрэатыпаў датычаць самога панятку "фэмінізм". Беларускія журналісты часьцяком нават не падазраюць, што фэмінізм – сур'ёзная філязофская ідэя, якая разьвіваецца як найменш у 15 кірунках. Дазволю сабе пераказаць артыкул Вольгі Біруковай у "Беларускім рынку". Сп-ня Бірукова зазначае, што пры сваім зараджэньні ў XIX ст. фэмінізм быў матэрыяльным і меў на мэце палепшыць умовы жыцьця жанчын і зьняць зь іхных плечаў цяжар хатняе ручное працы. Затым зьявіўся лібэральны фэмінізм – змаганьне за роўныя выбарчыя правы мужчын і жанчын. Радыкальны фэмінізм расквітнеў у 60-70 г.г. XX ст. Асноўная тэза – дыскрымінацыя жанчын ёсьць асноўная форма ўціску, якая праходзіла праз усе расы, культуры і эканамічныя клясы.

Мэтай радыкальных фэміністак было разьмежаваць біялягічна абумоўленыя і культурна абумоўленыя адрозьненьні мужчынаў і жанчын. Культурны фэмінізм меў дэвіз "Жанчыны ад прыроды больш добрыя й мілыя." Прадстаўніцы гэтай галіны стварылі мноства крызавых цэнтраў для дыскрымінаваных жанчын, найчасьцей для тых, хто стаўся ахвяраю гвалту. Экстрэмісцкі фэмінізм выбухнуў у тыя ж 60-я гады. Экстрэмістка Валеры Салянас нават страляла ў мужчыну. У 1970 г. галяндзкая жаночая група Minas арганізавала своеасаблівыя дэманстрацыі роўнасьці – удзельніцы групы хадзілі па вуліцах і шчыкалі мужчын за мяккае месца.

На жаль, бальшыня беларускіх журналістаў і журналістак падтрымлівае чытачоў у аблудзе, што фэмінізм прадстаўлены толькі экстрэмісцкімі, радыкальнымі ды прста дасьціпнымі плынямі й да дабра не даводзіць. У масавых мэдыях я аніразу не сустэла паведамленьняў, што мужчыны ствараюць свае рухі, каб выпрацаваць пасьлядоўную праграму змаганьня з аднабаковым уяўленьнем пра мужчыну як моцнага самца й здабыўца ежы. Генэза мужчынскага руху адбывалася прыкладна так (зноўку ж я прыхавана цытую Вольгу Бірукову): вайна ўва Віетнаме дэскрэдытавала вобраз мужнасьці; у 60-ыя гады контаркультура прызнала андрагіна (асобу, якая валодае прыкметамі абодвух палоў); зьявілася шмат крытыкі гендэрных роляў; група адкрытых геяў заняла сваё месца ў сьвеце гетэрасэксуалаў.

Мужчынскія фэміністычныя групы перакананыя, што жыцьцё ў патрыярхальным грамадзтве не адпавядае інтарэсам ані мужчынаў, ані жанчын. Сёньняшнія выпускнікі амэрыканскіх ВНУ часам ужо не разумеюць сэнсу супрацьстаяньня: у ЗША роўнасьць палоў – нармалёвая зьява.

Сярод буйных газэт пальму першынства па прадукаваньню гендэрных стэрэатыпаў, на маю думку, варта аддаць "Советской Белоруссии". Гэтак, ейная карэспандэнтка піша пра жаночы рух: "*Главное – не слишком увлекаться. Как не без сожаления призналась одна из француженок, сегодня на Западе жизнь женщин все больше походит на жизнь мужчин. Лично меня такая перспектива как-то не очень привлекает...*" І далей: "*Похоже, деловые и самостоятельные женщины Запада все больше запугивают представителей сильного пола. Мало того, что западные мужчины и так не рискуют лишний раз оказать знак внимания „слабой" половине человечества, так теперь им приходится, в буквальном смысле, обороняться от женских атак.*

*Недавно профессор психологии из Канады Сильвия Лапьер, которая влюбилась в своего коллегу, тоже профессора, не выдержала игнорирования с его стороны ее ухаживаний и решила взять неподдающегося коллегу напором. Оказавшись с ним в кабинете наедине, она приставила к виску мужчины пистолет и потребовала, чтобы он немедленно занялся с ней любовью. В противном случае психолог угрожала его застрелить*".

А вось "Советская Белоруссия", пішучы пра сумную гісторыю вясковае бабулькі, якая прапрацавала шмат гадоў трактарысткай. Падарвала здароўе й апынулася бяз сродкаў да існаваньня з-за мізэрнае пэнсіі: "*Всю свою жизнь она пахала без отдыха. Наравне с мужиками, а то и лучше их. Отроду не зная, что такое феминизм, без труда отняла у сильной половины человечества их главную привилегию: работать лучше всех с утра до ночи*". А вось рэцэнзэнтка "СБ" піша пра фільм Н.Міхалкова "Сибирский цирюльник": "*Все презрение к цепкому американскому феминизму Михалков вложил в образ авантюристки Джейн. Рыжий парик, влажные губы и никакого романтизма — одни шипящие согласные — yes-s-s-s. Это из-за нее юнкер Андрей Толстой (Олег Меньшиков) отправляется на каторгу, из-за нее в России появляется адская машина для стрижки тайги, именуемая „Сибирский цирюльник"*".

Ува ўсіх прыведзеных урыўках відавочная вульгарызацыя панятку фэмінізм, пра якую мы згадвалі вышэй.

Асаблівае раздражненьне выклікаюць спробы пісаць пра фэміністкія мерапрыемтвы у нейкім гульліва-какетлівым стылі: "*Почему бы мужскому шовинизму не противопоставить шовинизм женский? Этакий прекрасный и грациозный, как данная половина рода человеческого, феминизированный, эмансипированный и гендерированный по последней моде шовинизмик с волоокими глазами и длинными ногами*». І далей: «*милые дамы – участницы семинара… В Беларуси 10 прекрасных представительниц служат заместителями в сугубо мужских министерствах*". Што б вы падумалі пра аўтара, які б у справаздачах з паседжаньня Рады Міністраў пісаў бы: "*наши сильные и мускулистые мужчины приняли бюджет на 2001 г.*»? Напэўна, вы б падумалі, што аўтар – сэксуальна заклапочаная асоба. Аднак у дачыненьні да жанчын такі стыль не выклікае пярэчаньняў у рэдактара: "*Все-таки у прекрасной половины - как исповедующей феминизм и полное равенство во всех областях с сильным полом, так и наоборот, жаждущих довольствоваться ролью хранительницы семейного очага и блюстительницы традиций патриархального домостроя, – замечательный весенний праздник 8 Марта! Единственный, можно сказать, день в году, когда отечественные мужчины добровольно вспоминают, что им полагается присовокупить к привычным обязанностям добытчика-кормильца еще и манеры галантных рыцарей и обходительных кавалеров*". У прэсе патрыярхальных супольнасьцяў дасягненьні тоўстай, зь разьбытымі цягліцамі, непрыгожай ці недагледжанай жанчыны могуць быць проста нябачныя.

Аўтары "СБ" прапануюць жанчынам ужываць тэхналёгіі маніпуляваньня, каб дамагчыся посьпехаў у кар'еры: "*Разве мы сами не пытаемся намеренно или интуитивно кокетничать с ними? Для чего весь этот надменно-сдержанный или вызывающе-броский макияж, одежда, которая открывает то, что надо открыть, и облегает то, что надо подчеркнуть? Неужели для того, чтобы убедить мужчину в том, что вы - незаменимый работник, умный, легко поддающийся обучению, с прекрасными деловыми качествами. Так что если мы не желаем становиться на работе мужеподобными уродинами, то, может, и не вправе требовать от начальника, чтобы он „цьвёрда трымаўся", как комсомолец на допросе. Не пришло ли время наконец задуматься над проблемой естественного дополнения полов, а не их уравнивания? Может, женщинам имеет смысл просто научиться пользоваться мужскими слабостями?*"

Хачу парадаваць прыхільнікаў гендэрнай роўнасьці вытрымкай з артыкулу Антона Водкіна ў "Белорусской газете"(сп. Водкін піша пра 8 сакавіка): "*Патриархальная культура, в которой возможности мужчин для карьерного роста, самореализации и доступа к власти бесконечно больше, чем у женщин, не является чем-то ископаемым. К сожалению, Беларусь и здесь может быть примером. Вспомните, с чем поздравляют женщин и чего им желают? Благополучного семейного очага, непременно стать матерью, достойного защитника... В любом случае все эти пожелания выражают одно и тоже: женщина - значит, мать, должна сидеть дома, воспитывать детей, подчиняться мужу (повезет, если „хороший"). Большинство проявляемых знаков внимания намекают на восприятие женщины исключительно как потенциально полового партнера, ведь вы же не дарите своим деловым партнерам мимозы и открытки? Женщина не рассматривается как равноправный субъект общения, а воспринимается исключительно как объект желания... именно против этого боролось и борется феминистское движение. За то, чтобы видеть в женщине равноправного человека, а не одну из разновидностей самок млекопитающих.*



*Ежегодный карнавал 8 марта позволяет контролировать состояние и умонастроение женской части общества. Как она реагирует на похлопывание начальственной рукой ниже спины в момент вручения „премии" по случаю 8 марта? Как относится к праву первоочередного увольнения (так сказать, всегда уступать женщинам)? Не перестало ли, не дай Бог, для нее слово „феминизм" быть ругательным? Но все эти не очень приятные и грубые вещи успешно маскируются. А уж если вы включите телевизор 8 марта, то сможете узнать столько интересного! О том, что наши женщины самые мужественные, что на их хрупких плечах держится все домашнее хозяйство вместе с мужем и т.п. Услышите массу объяснений в любви и страстных признаний, но ни за что не услышите о равных возможностях и правах!*"

Толькі адная агульнанацыянальная газэта не дала мне падставы для

крытыкі – “Наша Ніва”. За 10 гадоў, што я яе чытаю, НН ані разу не ступіла за мяжу гендэрнай карэктнасьці. А вось “БГ” й “БДГ” часам дазваляюць сабе друкаваць показкі, якія прэзэнтуюць гендэрныя стэрэатыпы.

Заканчваючы тэмат “стэрэатыпы ў газэтах”, я не магу ўтрымацца ад шырокага цытаваньня інтэрвію кіраўніцы Цэнтру гендэрных дасьледаваньняў пры ЭГУ Алены Гапавай, якое яна дала Вераніцы Чаркасавай (БДГ). Я цытую яго як прыклад безумоўнай гендэрнай карэктнасьці:

*“Выступая на похоронах Галины Старовойтовой, взволнованная Ирина Хакамада говорила: «Вы, мужчины, создали эту грязную политику, в которой убивают женщин..” Знаете, я всегда побаивалась таких разговоров: отдайте нам ваши права и оставьте нам наши привилегии. Галину Старовойтову убивали не как женщину, ее убили, как политика и гражданина. Либо мы, женщины, принимаем на себя всю ответственность и не требуем какого-то особого отношения к нам, либо мы просто не имеем права говорить о каком-либо равноправии. Большинство считает феминизм движением женщин за особые привилегии или за одинаковое с мужчиной право варить сталь в мартеновской печи, прыгать с парашютом и карабкаться на Эверест. Насколько эти проблемы важны для вас?*

*Очень страшно сознавать, что в мире есть какие-то преграды, которые связаны с твоим полом. Женщине, которая решила стать пилотом, возможно, придется делать выбор: родить ребенка или летать. Перед мужчиной такая проблема не стоит. Но, слава Богу, мир развивается, и наши физические различия, которые не так уж и велики, начинают иметь все меньшее значение. Это проблема развивающихся технологий. Проникновение женщин в те сферы, где ранее доминировал мужчина, очень важно, поскольку это - проблема зарплаты, проблема денег. У нас по-прежнему существует профессиональная сегрегация по признаку пола, когда женщины протирают подносы в столовой, а мужчины варят сталь. И то, и другое социально необходимо, но за варку стали платят неизмеримо больше, нежели за работу в детском саду. Так сложилось, что социально необходимый труд оплачивается хуже. И проникновение женщин в сферы деятельности, где традиционно доминируют мужчины - это еще и проблема получения равного вознаграждения. Пока женщины как группа будут получать меньше, чем мужчины, ни о каком равенстве говорить невозможно.*

*Когда женщина пытается выйти за границу стереотипа, традиционная культура старается ее контролировать, а окружающие начинают гадать, кто она: сумасшедшая, стерва или ненормальная. Я думаю, что в жизни наступает момент, когда надо осознать собственную самоценность. В нашем «Феминистском вестнике” недавно было напечатано интервью с директором сексологического центра Капустиным, который объясняет, для чего женщина должна быть слабой. По его логике - для того, чтобы мужчина мог быть сильным. Но по моему мнению, мужчина, который может быть сильным лишь на фоне слабой женщины - это уже не мужчина”.*

### Зычэньні

Падаецца, у нашым заканадаўстве пакуль што няма ані слова пра недапушчальнасьць распаўсюду праз СМІ інфармацыі з мэтаю абразіць грамадзяніна ці катэгорыю грамадзянаў паводле прыкметаў полу ці ўзросту. Гэта пакідае шмат прасторы для такіх ганебных праяваў, як сэксызм і эйджызм. Пра гэта мусяць паклапаціцца заканадаўцы, а таксама цэнтар гендэрнай палітыкі і інфармацыі пры міністэрстве сацыяльнай абароны. Журналісцкія арганізацыі, у прыватнасьці БАЖ, могуць стварыць нейкую Раду (альбо задзейнічаць у гендэрных пытаньнях Камісію па журналісцкай этыцы) для выяўленьня дэструктыўнай дзейнасьці СМІ ў галіне гендэрнай роўнасьці. Безь якойсьці цэнзуры з боку дзяржавы, самыя журналісты павінныя ўсьведаміць важнасьць гендэрнай карэктнасьці. Тут павінныя запрацаваць мэханізмы самарэгуляцыі СМІ. На маю думку, свабода слова можа й павінная быць абмежаваная этычнымі нормамі журналістыкі. Рэдактары ў сваіх дзеяньнях мусяць кіравацца прынцыпамі забесьпячэньня гендэрнай роўнасьці, вынішчэньня сэксызму й эйджызму, стэрэатыпнага выяўленьня жанчын і мужчын; судзейнічаць далучэньню гендэрнай тэматыкі да палітыкі СМІ, збалянсаванаму прадстаўніцтву жанчын і мужчын ува ўсіх сфэрах дзейнасьці газэты.

Беларускія СМІ павінныя ўстрымлівацца ад паказу жанчын як непаўнавартасных людзей і не выкарыстоўваць іх у якасьці аб’екту для задавальненьня сэксуальных патрэб або тавару.

Мяркую, што прынцыпамі, улучанымі ў разьдзел “Перакананьні”, мусіць кіравацца кожны прыстойны сучасны чалавек.

**Сьвятлана Курс**

### Жанчыны вызначаюць стратэгію

**З 6 да 9 сьнежня 2001 году ў Менску праходзіў сэмінар па стратэгічным плянаваньні дзейнасьці Асамблеі жаночых няўрадавых арганізацыяў краін СНД.**

Асамблея жаночых НГА краін СНД была заснаваная як міжнародная аргінізацыя ў 2000 годзе прадстаўніцамі жаночых НГА Азэрбайджану, Армэніі, Казахстану, Кыргыстану, Малдовы, Расеі, Таджыкістану, Узбэкістану, Украіны. Ад Беларусі ў дзейнасьці Асамблеі бярэ ўдзел Жаночы Незалежны Дэмакратычны Рух.

Місія Асамблеі скіраваная на спрыяньне дасягненьню гендэрнай роўнасьці ў рэгіёне праз прэзэнтацыю інтарэсаў жанчын на ўзроўні прыняцьця пастановаў і маніторынгу выкананьня міжнародных дакумэнтаў і пагадненьняў.

На сэмінары былі вызначаныя прыярытэты дзейнасьці Асамблеі, удакладненыя мэты й задачы, распрацаваны плян працаў на бліжэйшыя два гады. Сэмінар завяршыўся падпісаньнем Пагадненьня пра далейшую дзейнасьць Асамблеі жаночых НДА краін СНД на бліжэйшыя два гады і прыняцьцем Мэмарандуму.



# Нам усё роўна куды йсьці?

*- А куды ты хочаш трапіць? - спытаў Кот*
*- Мне ўсё роўна...- адказала Аліса*
*- Тады ўсё роўна, куды ісьці, - заўважыў Кот.*
*- ...толькі бы патрапіць куды-небудзь, - патлумачыла Аліса*
*- Куды-небудзь ты абавязкова трапіш, - сказаў Кот. - Патрэбна толькі дастаткова доўга йсьці.*

***Л.Кэррал “Прыгоды Алісы ў краіне цудаў”***



Не сакрэт, што рознага роду сэмінары і канфэрэнцыі заклікаными выконваць функцыю стымулятару сыстэмы, якія ня толькі рэанімуюць але і сублімуюць нашу энэргію і ініцыятыўнасьць. На побытавым узроўні сэмінары бываюць “кепскія” і “добрыя”. “Кепскія” нас расчароўваюць і прымушаюць да пошуку іншых шляхоў і матываў, мэтадам “ад адваротнага”. “Добрыя” ня толькі нясуць патрэбную нам інфарматыўнасьць, але і, што больш важна, даюць станоўчы імпульс для творчага пошуку, зьяўляюцца каталізатарам да імкненьня дзейнічаць.

З гэтага пункту гледжаньня, міжнародны сэмінар, які адбыўся 23 лістапада 2001 году ў Пінску на тэму “Гендэрныя стэрэатыпы ў працэсе выхаваньня і адукацыі ў беларускім і швэдзкім грамадзтве” быў “добрым”.

На сэмінары было каля 50 удзельнікаў зь Беларусі, Украіны, Швэцыі. Сэмінар праводзіла Надзея Аўсіевіч з ГА “Калегіюм” (г. Пінск). Абмяркоўваліся пытаньні гендэрных стэрэтыпаў у СМІ, у сыстэме выхаваньня й адукацыі. Із швэдзкага боку выступалі выкладніца Гётэборгзкага ўнівэрсытэту Марыя Эдстром, лектарка Мія Ганстром і Сэсылія Рэймэрс, выкладніца Швэдзкага Стакгольмскага інстытуту. Зь беларускага боку выступілі Сьвятлана Курс (Радыё “Рацыя”) і Надзея Аўсіевіч .

Гаспадыня сэмінару Надзея Аўсіевіч здолела стварыць цёплую і прыязную атмасфэру, абрала верны тон сэмінару: шчырасьць, “камэрнасьць”, адсутнасьць прэсінгу, простая і даступная лексыка, дакладнасьць пабудовы і лягічны ланцужок выступаў. Працавалі паводле прынцыпу “Кубіка - Рубіка”: асобныя разрозьненыя элемэнты склалі адзінае цэлае. Паступова выкрышталізаваліся і сталі больш зразумелымі тыя словы, якія здаваліся раней лаянкавымі: “гендэрны” і “стэрэатыпы”.

Сэмінар прайшоў, пакінуўшы пасьля сябе настальгічную тугу, якая бывае пасьля чагосьці добрага. Хацелася бы спадзявацца, што ўсе мы, назьбіраўшы пэўных ведаў, без агрэсіі і надрыву, змаглі бы стаць праваднікамі ідэі гендэрнай роўнасьці, што, у маім разуменьні, зьяўляецца сынонімам культуры здаровага сэнсу й годнасьці.

**Ірына Жутоўская**

# Гісторыя, якой няма ў падручніках



**Прэзэнтацыя выставы "Шляхам змаганьня" і кнігі "Беларусь мяцежная" адбылася 1 сьнежня ў Гародні. Абодва мерапрыемствы ладзіліся ў межах праграмы "Гісторыя, якой няма ў падручніках" грамадзкага аб'яднаньня "Беларуская жаночая ліга".**

Як паведаміла ў час прэзэнтацыі кіраўніца “Беларускай жаночай лігі” кандыдатка гістарычных навук Ніна Стужынская, Гародня стала апошнім з васямнаццаці гарадоў, дзе адбывалася прэзэнтацыя выставы і кнігі.

Прадстаўнікі грамадзкіх арганізацыяў гораду, журналісты, навукоўцы ды людзі, якія цікавяцца гісторыяй роднага краю, пазнаёміліся з унікальнымі матэрыялямі, зьвязанымі з антысавецкім супрацівам у Беларусі, мэханізмамі рэпрэсіяў камуністычнага рэжыму.

Цікавымі былі таксама выступы вядомых беларускіх навукоўцаў Андрэя Кіштымава (“Роля Гарадзеншчыны ў эканамічным разьвіцьці Беларусі XIX – пачатку XX ст.ст.”), Сьвятланы Куль-Сільвёрставай (“Вусная гісторыя як крыніца ведаў па гісторыі Беларусі XX стагодзьдзя”), Юрыя Грыбоўскага (“Беларусы ў войсках краін антыгітлераўскай кааліцыі ў гады II усясьветнай вайны”) і Ігара Кузьняцова (“Беларускі рэзыстанс і палітычныя рэпрэсіі”).

Суарганізатарам мерапрыемства ў Гародні зьяўлялася грамадзкае аб'яднаньне “Цэнтр “Трэці сектар”.

## Сьвята для дзяцей

**Дабрачынная дзіцячая дыскатэка адбылася 10 лістапада ў гарадзенскім клюбе "Калізей".**

Дыскатэку ладзіла ГА “Крыніца міласэрнасьці” і была прымеркаваная да Ўсясьветнага Дню моладзі.

Сярод удзельнікаў мерапрыемства былі дзеці зь дзіцячага дому, а таксама дзеці із шматдзетных і малазабясьпечаных сем’яў.

# Дзіцячыя ініцыятывы Гарадзеншчыны

**Ужо два гады грамадзкае аб'яднаньне "ВІТ" рэалізоўвае на Гарадзеншчыне праект "Глябальны рух у інтарэсах дзяцей". Каардынацыю гэтага праекту на рэспубліканскім узроўні ажыцьцяўляе Беларускі зьвяз маладзёвых і дзіцячых грамадзкіх аб'яднаньняў "РАДА" і Прадстаўніцтва дзіцячага Фонду ААН (ЮНІСЭФ) у Рэспубліцы Беларусь.**

Асноўная дзейнасьць у межах праекту палягае на выяўленьні і падрымцы дзіцячых ініцыятываў. Пад дзіцячай ініцыятывай, у кантэксце праекту, разумеецца грамадзка-карысная дзейнасьць, якая ініцыюецца і рэалізоўваецца падлеткамі і накіраваная на разьвязаньне іх праблем і рэалізацыю сацыяльных правоў.

Сёньня на старонках часапісу "ТС" першая сустрэча зь дзіцячымі ініцыятывамі, якія рэалізуюцца на Гарадзеншчыне.

## Клюб ЮНЭСКА "Шакалядка"

Клюб ЮНЭСКА "Шакалядка" дзейнічае пры СШ №14 Гародні з 1995 году. Клюб сёньня налічвае 8 лідэраў і каля 60 чалавек прыхільнікаў зь ліку навучэнцаў школы.

Мэта "Шакалядкі" – папулярызацыя ідэалаў ЮНЭСКА, прыцягненьне моладзі да творчай дзейнасьці і рэалізацыя ўсебаковых карысных уласных ініцыятываў.

За час дзейнасьці "Шакалядкі" былі ажыцьцяўвіліся шмат цікавых праектаў: Тыдзень Міру, Экалягічная сьцежка, трэнінгі па тэме "Межкультурнае навучаньне". У гэтым навучальным годзе клюб пляную правесьці мерапрыемствы па прафіляктыцы паленьня тытуню сярод навучэнцаў школы і трэнінгі па тэме "Прафіляктыка ВІЧ/СНІД".

Сябры клюбу кажуць: "Трэба ствараць нашу будучыню разам. А пачынаць пажадана ўжо сёньня!" Нельга не пагадзіцца з гэтымі словамі.

Кантактная асоба: Каця Гальшкова. Адрас ініцыятывы: 230009, Гародня, вул. Болдзіна, 10б, СШ №14. Тэлефон: (0152) 33-47-37.

## Дзіцячая ініцыятыва "Эколяг"

Асноўнай мэтай дзейнасьці ініцыятывы – ахова, захаваньне і экалягічнае пераўтварэньне прыродных рэсурсаў мясцовасьці. "Эколяг" быў створаны ў 1996 годзе і зараз налічвае 18 аднадумцаў.

Найбольш пасьпяховым мерапрыемствам ініцыятывы стала акцыя "Пасёлку – наш клопат". У межах гэтай акцыі сябры ініцыятывы з дапамогай шматлікіх прыхільнікаў правялі ўборку вуліц і парку мястэчка.

Сябры ініцыятывы ганарацца ўдзелам у рэспубліканскім экалягічным фотаспаборы "Зямля – наш дом", а таксама перамогай у спаборы ўкладаньняў "Горад і вёска новага тысячагодзьдзя".

У найбліжэйшы час ініцыятыва пляную падрыхтоўку і правядзеньне суботніку па пасадцы 2 гектараў лесу.

Акрамя гэтага сябры "Эколягу" займаюцца краязнаўствам і падарожжамі. Яны кажуць, што, дзякуючы рабоце ў ініцыятыве, навучыліся бавіць вольны час ня толькі карысна, але й вельмі цікава.

Кантактныя асобы: Алена Савіцкая і Ірына Бяляўская. Адрас ініцыятывы: 231350, Гарадзенская вобласьць. Іўеўскі раён, п. Юрацішкі, Юрацiская сярэдняя школа. Тэлефон (01595) 3-53-18.

## Дзіцячая ініцыятыва "Трохкутнік"

Няшмат сёньня дзіцячых ініцыятываў, якія займаюцца навуковай дзейнасьцю. Адна зь іх – "Трохкутнік". Мэта яе існаваньня – развіцьцё і падтрымка ў моладзі цікавасьці да навукі.

Сябры "Трохкутніку" штогод прымаюць удзел у міжнародным спаборы "Кенгуру", а таксама ў рэспубліканскіх завочных алімпіядах.

Створаны "Трохкутнік" быў у верасьні 1995 году й цяпер яднае 27 навучэнцаў 8-11 кляс школы.

Важным для сваёй плённай дзейнасьці сябры ініцыятывы лічаць наладжваньне супрацоўніцтва з прадстаўнікамі іншых дзіцячых ініцыятываў навуковага накірунку. Таму пішэце ці тэлефануйце - і вам будуць радыя!

Кантактныя асобы: Кірыл Казановіч і Кацярына Казановіч. Кантактны адрас: 231350, Гарадзенская вобласьць, Іўеўскі раён, п. Юрацішкі, Юрацiская сярэдняя школа. Тэлефон: (01595) 3-55-21.

**Віталь Нікановіч**

# Другая гадавіна "Ветраку"

**3-га лістапада ў раёнай бібліятэцы Слоніму адбылося сьвяткаваньне другой гадавіны маладзёвай арганізацыі "Вятрак".**

Акрамя сябраў "Ветраку" на сьвяткаваньні прысутнічалі прадстаўнікі іншых грамадзкіх арганізацыяў Слонімшчыны: "Ветразю", "Жаўранку" ды "Сьвятліцы".

У добрай, зычлівай атмасфэры маладзёны размаўлялі пра дзейнасьць маладзёвых арганізацыяў Слонімшчыны, пра тое, што ўдалося і што не атрымалася зрабіць за 2 гады існаваньня арганізацыі.





## Дзяды ў Гародні

**Сёлетнія Дзяды ў Гародні адзначаліся ў два этапы і прайшлі без умяшальніцтва міліцыі.**

З раніцы людзі паехалі на могілкі, дзе ўсклалі кветкі да могілак вядомых асобаў Гарадзеншчыны. Увечары прадстаўнікі Гарадзенскага БНФ разам з Маладым Фронтам усклалі кветкі да помніка Міцкевічу, шыльды Рыгору Шырме, бюста Купалы і каля дома-музэю Багдановіча. Скончылася акцыя ля шыльды паўстанцам Каліноўскага, якая знаходзіцца на чыгуначным вакзале.

Год таму міліцыя ўчыніла жорсткую акцыю на Дзяды. Больш за дванцаць удзельнікаў ушанаваньня памяці продкаў былі схоплены каля помніка Янкі Купалы і дастаўленыя ў міліцыю. У акцыі ўдзельнічалі некалькі дзясяткаў міліцыянтаў. Сёлета нічога падобнага не адбылося.

## Працягвае працу грамадзкая прыёмная

**Працягвае працу грамадзкая прыёмная арганізацыі "Аслона" з Ваўкавыску.**

Штодня ў прыёмную завітваюць ад 3 да 7-і асобаў. Асноўныя пытаньні, якія зараз хваляюць грамадзянаў, - гэта грамадзкія справы, крымінальные права, дзейнасьць мясцовых выканаўчых органаў улады.

## Дзень памяці паўстанцаў Каліноўскага

**3-га лістапада ў Сьвіслачы пяты год запар быў адзначаны Дзень памяці паўстанцаў Каліноўскага.**

На могілках Сьвіслачы былі ўскладзеныя кветкі на магілу брата Кастуся Каліноўскага - Віктара. Пасьля кароткае прамовы пачынальніка гэтае традыцыі Зьміцера Кіселя прысутныя ўшанавалі памяць паўстанцаў хвілінай маўчаньня.

Затым на цэнтральным плошчы былі ўскладзеныя кветкі да помнікаў Кастусю Каліноўскаму і Рамуальду Траўгуту. У Якушоўцы - былой сядзібе Каліноўскіх - як і чатыры гады таму, сябры гарадзенскай арганізацыі Маладога Фронту прынялі прысягу. У арганізацыю было прынята 10 новых сяброў. А на завяршэньне мерапрыемства быў невялічкі бардаўскі канцэрт з удзелам Андрэя Мельнікава, Віктара Шалкевіча, Валерыя Жамойціна, а таксама гарадзенскага хору "Бацькаўшчына".

## "Гуртам і бацьку лепей біць!"

**Менавіта гэтак ахарактарызаваў Круглы стол маладзёвых арганізацыяў, які адбыўся 8 лістапада ў Гарадзенскай вучэльні мастацтваў, адзін зь ягоных арганізатараў.**

З ініцыятывай правядзеньня мерапрыемства выступіла кіраўніцтва вучэльні. Прэзэнтаваць студэнтам свае арганізацыі, паказаць маладзёнам новыя й цікавыя магчымасьці правесьці ўласны вольны час сабраліся прадстаўнікі ГА "Цэнтр "Трэці сектар", ГМКІ "Краявід", Маладога Фронту й Маладой Грамады, БСМ і БПСМ.

Мерапрыемства гэткага кшталту ў Гародні ладзілася ўпершыню. Задаволеныя адзін адным і, вядома, самымі сабой, удзельнікі I Круглага столу пастанавілі на дасягнутым не спыняцца і абавязкова зьбірацца й надалей.

## Дзьве акцыі ў Дзень барацьбы з фашызмам і антысэмітызмам

**9-га лістапада, у Гародні прайшлі дзьве акцыі наладжаныя маладзёвымі арганізацыямі места і прысьвечаныя Дню барацьбы з фашызмам і антысэмітызмам.**

Першая, якую ладзіў Гарадзенскі Малады Фронт, прайшла ў жалобным фармаце. Маладзёны ўсклалі кветкі каля шыльды гарадзенскага гета, якое знаходзілася ў цэнтры места падчас II усясьветнай вайны. Затым шлях прайшоў да Магілы загінулых вайскоўцаў, што ў парку Жылібэра. Тут таксама былі ўскладзеныя кветкі. Наступным месцам ускладаньня кветак сталіся гарадзкія вайсковыя могілкі.

Другой акцыяй стаўся прагляд відэафільмаў, арганізаваны Гарадзенскім антыфацэнтрам і КДС "Разам". Каля дваццаці маладых людзей праглядзелі фільмы пра вайну 1936-га году ў Гішпаніі, калі побач з камуністамі змагаліся інтэрбрыгады з усяго сьвету. Былі таксама паказаныя фільмы пра акцыі антыглябалістаў, якія праходзілі ў 2000-м годзе ў Празе і ў 2001-м - у Генуі.

## Фэстываль адбыўся

**10-11 лістапада ў Гародні адбыўся Фэстываль клюбаў ЮНЭСКА-2001.**

У межах Фэстывалю ўдзельнікі ўзялі ўдзел у працы "круглых сталоў" і сэкцыяў па журналістыцы, экалёгіі, лідарству, правох дзіцяці, міжкультурнаму навучаньню, магчымасьцях Інтэрнэту ды інш. Акрамя адукацыйнага блёку "юнэскаўцы" ўдзельнічалі ў ролевай гульні па разьвіцьці камунікацыйных навыкаў, а таксама правялі самадзейны канцэрт.

Удзел у Фэстывалі ўзялі каля 120 чалавек з Гародні, Менску, Жодзіна. Арганізатарам выступілі гарадзенскія клюбы ЮНЭСКА "КЛЮВ", "САЮД", "Шакалядка", "Лепрыкон", "Авэнір", "ЦАМ", "Кронан".

## Ад лідзкіх муроў

**15 лістапада ў Лідзе ў галерэі гісторыка-краязнаўчага музею, прайшла выстава паэтаў, пісьменьнікаў і літаратараў Лідчыны "Ад Лідзкіх муроў пачыналі мы крок".**

Выстава складалася з экспазыцыі, якая ахоплівала ўсіх паэтаў і пісьменьнікаў Лідчыны, пачынаючы зь Яна Абрамовіча – лідзкага старасты XVI стагодзьдзя і скончваючы паэтамі і празаікамі, якія напісалі свае творы ў пэрыяд лета-восень 2001 году.

Адразу пасля выставы прайшоў літаратурны вечар "Вершы аб Лідзе". Навучэнцы Крупаўскай сярэдняй школы паказалі міні-спэктакаль паводле паэмаў Станіслава Судніка "Давыд Гарадзенскі" і "Літва". Вершы аб Лідзе чыталі студэнты пэдагагічнага каледжу Ліды. Адбыліся аўтарскія чытаньні А.Стадуба, Л.Вініка, С.Судніка, Л.Пырскага, В.Бачарова, С.Сліўко і шмат інш. А напрыканцы сустрэчы перад прысутнымі выступіў із сваімі песьнямі беларускі бард Сяргей Герасімовіч.

# Посьпехі й жаданьні

**Апытаньне "ТС"**

**Тэмай чарговага апытаньня "ТС" стала падвядзеньне вынікаў мінулага году і спадзяваньняў на будучыню, выказаных актывістамі трэцяга сэктару Гарадзеншчыны. Кожнаму з удзельнікаў апытаньня мы задалі наступныя пытаньні:**

**1. Што было найвялікшым посьпехам у гэтым годзе для вашай арганізацыі/ініцыятывы?**

**2. Што бы вы хацелі, каб Сьвяты Мікалай прынёс у наступным годзе арганізацыі?**



**Марына Леванеўская (старшыня арганізацыі "Крыніца міласэрнасьці", Гародня):**

1. Дыскатэка ў "Калізеі", якую мы ладзілі для нашых дзетак. А таксама сумеснае катаньне на цеплаходзе летам.

2. Паболыш цікавых мерапрыемстваў і ініцыятываў. Часьцей сустракацца, каб рабіць разам карысныя справы.



**Галіна Бяляўская (Старшыня "Асацыяцыі маладых хрысьціянскіх жанчын", Смаргонь):**

1. Адбылося аб'яднаньне людзей. Мы выйшлі досыць удала і цывілізавана з канфлікту. Прычым бяз стратаў, а з досьведам.

2. Дай Божа нам усім здароўя і шмат сіл, каб зрабіць нашыя мары рэчаіснасьцю. А мары нашыя добрыя!



**Сьвятлана Шульга (старшыня аддзяленьня Фонду "Дзецям Чарнобыля" г. Масты):**

1. Ня ведаю, як нават і адказаць. Усё адначасова і значнае, і нязначнае. Ня ведаю, як гэта спрацуе на будучыню. Гэта й пададзены намі новы вялікі праект, гэта й сяброўства з італійцамі, гэта і ўдзел у VI маладзёвай канфэрэнцыі нашага Фонду.

2. Каб усе мары ажыцьцявіліся.



**Вадзім Саранчукоў (старшыня ініцыятывы "Малады Фронт", Гародня):**

1. Праца падчас мабілізыцыйнай кампаніі. А таксама прыцёк новых людзей.

2. Волю для Беларусі!!! І каб мяне вылечыў! (з жартам)



**Сяргей Салей (старшыня ГА маладых навукоўцаў "BIT", Гародня):**

1. Тое, што былі закладзеныя асновы для новых праектаў 2002 году.

2. Добры настрой і надзеі на будучыню.



**Павал Мажэйка (журналіст газэты "Пагоня", Гародня):**

1. За некалькі гадоў упершыню ў рэдакцыі сабраўся такі добры калектыў. Прычым, гэта людзі маладыя. Нягледзячы на ўсе цяжкасьці, мы сталі ня проста сябрамі "Пагоні", а суцэльным арганізмам. Шкада, што ў лістападзе быў перарваны гэты сымбіёз.

2. Я ўпершыню ў жыцьці ня проста прашу ад Сьвятога Мікалая, я патрабую! Па-першае, каб ён асьвятліў галовы тых чыноўнікаў, ад якіх залежыць разьвязка пытаньня з "Пагоняй". А калі не, дык каб прынесьлі нам на спадачку рэгістрацыю новай беларускай газэты.



**Валянціна Сячынская (старшыня ГА "Агеньчык надзеі", Смаргонь):**

1. Тое, што мы змаглі агульнымі намаганьнямі зрабіць агульную справу для цяжкіх дзяцей. Тры гады таму мы не маглі нават марыць пра тое, што будзе створаная спэцыяльная група для нашых дзетак. Важна таксама й тое, што з намі пачалі лічыцца нашыя ўлады. 3 сьнежня ўлады падрыхтавалі для нас канцэрт, салодкі стол і сказалі: "Дзякуй за працу!".

2. І сабе, і ўсім людзям, хто сутыкнуўся з праблемай хваробы свайго дзіцятка, хачу папрасіць, каб не гублялі Веры, Надзеі й Любові! Калі нехта страціў – няхай знойдзе, бо гэта тры кіты, на якіх трымаецца сьвет!



**Сяргей Кузьняцоў, старшыня Гродзенскай маладзёвай краязнаўчай ініцыятывы "Краявід"**

1. Із station ўчага я б адзначыў новы накірунак у дзейнасьці. Мы зразумелі, што павышаць свае веды аб нашым краі, самым для сябе арганізоўваць экскурсіі гэтак жа файна, як праводзіць спаборы сярод школяроў і дзяліцца зь імі сваімі ведамі.

2. Трэцяму сэктару хацелася б пажадаць посьпехаў у дасягненьні ўсяго задуманага, каб усё атрымлівалася, нягледзячы на пасткі лёсу.

**Падрыхтавала Лана Руднік.**

# Інтэрнэт Гарадзеншчыны: трэці сэктар і няўрадавыя СМІ

**Пададзены ніжэй матэрыял ёсьць першай спробай зрабіць агляд інтэрнэт-рэсурсаў няўрадавых арганізацыяў і сродкаў масавай інфармацыі Гарадзеншчыны. Калі вам вядомыя адрасы іншых гарадзенскіх арганізацыяў і выданьняў – паведамце нам, калі ласка.**

## Няўрадавыя СМІ Гарадзеншчыны

- Гарадзенская газэта "Пагоня"
  *www.pahonia.promedia.minsk.by*

Зьмяшчае архіў выданьня, а таксама падае ў on-line-рэжыме матэрыялы, падрыхтаваныя журналістамі выданьня пасьля закрыцьця газэты. Зараз на пляцоўцы можна прачытаць таксама водгукі грамадзкасьці на ліквідацыю выданьня.

- Гарадзенскі штотыднёвік „Биржа Информации"
  *www.gazeta.grodno.by*

На пляцоўцы зьмешчаная інфармацыя пра Гародню і вобласьць, факты і артыкулы з палітычнага, эканамічнага ды культурнага жыцьця гораду й вобласьці, навіны з усёй Беларусі, а таксама замежныя навіны. Абнаўляецца штотыднёва.

- Польскамоўны штотыднёвік "Глос з-над Немна" (выдаецца ў Гародні)
  *www.glos-znad-niemna.virtuallave.net*

Зьмяшчае інфармацыю пра дзейнасьць польскай нацыянальнай меншасьці на тэрыторыі Беларусі, апісвае дзейнасьць Зьвязу палякаў, падае актуальныя навіны з Гарадзеншчыны, усяе Беларусі, а таксама Польшчы і іншых краін. Мае асобныя разьдзелы, прысьвечаныя рэлігійным і культурніцкім навінам.

- "Газета Слонімская"
  *www.gs.promedia.minsk.by*

Абнаўляецца штотыднёва і зьмяшчае інфармацыю пра Слонімскі рэгіён, навіны з усёй Беларусі і ўсяго сьвету. Мае асобны разьдзел, прысьвечаны футбольнаму клюбу "Камунальнік", а таксама разьдзел "Славутыя людзі Слонімшчыны".

- "Новая газета Смаргоні"
  *www.smorgonnews.promedia.minsk.by*

Абнаўляецца нерэгулярна. Утрымлівае інфармацыю пра Смаргоншчыну, а таксама матэрыялы, якія друкуюцца ў газэце. Зьмяшчае цікавы праект "Агінскі ў Залесьсі".

## Няўрадавыя арганізацыі і ініцыятывы Гарадзеншчыны

- Цэнтр „Трэці Сектар"
  *sektar.cjb.net*

Зьмяшчае інфармацыю пра апошнія падзеі грамадзкага жыцьця Гарадзеншчыны, каталёг грамадзкіх арганізацыяў і ініцыятываў рэгіёну, каталёг рознага кшталту выданьняў. На пляцоўцы можна прачытаць таксама абраныя артыкулы з часапісу "Трэці сэктар" (1997-2001).

- Дабрачынная арганізацыя "Крыніца міласэрнасьці"
  *www.rm.by.ru*

Зьмяшчае інфармацыю пра дзейнасьць арганізацыі. Можна прачытаць таксама матэрыялы з бюлетэню арганізацыі (апошні выпуск – сакавік, 2001 г.)

- Беларуская YMCA
  *ymcabelarus.narod.ru*

На пляцоўцы можна даведацца пра жыцьцё рэгіянальных структур арганізацыі. На старонцы лідзкага Хрысьціянскага сяброўства моладзі й дарослых, у прыватнасьці, можна атрымаць інфармацыю пра дзейнасьць і пляны арганізацыі, а таксама зьвесткі пра Ліду. Пляцоўка была створана ў ангельскай мове, але зараз ідзе праца над беларуска- і расейскамоўнай вэрсіямі.

- Гарадзенская Канфэдэрацыя Дзеючых Суполак "РАЗАМ"
  *www.razam.by.ru*

Зараз на старонцы кожны чытач зможа знайсьці архіў газэты, праграмныя дакументы арганізацыі, інфармацыю пра заплянаваныя акцыі. Цікавымі пададуцца спасылкі, якімі карыстаюцца сябры канфэдэрацыі пры падрыхтоўцы інфармацыі. Назва "Афіцыёз"- гэта спасылкі на інфармацыйныя кампаніі ўсяго сьвету і таксама Беларусі. Прысутнічае музычная інфармацыя пра гарадзенскую панк-сцэну, спасылкі на баскі супраціў і шмат чаго іншага.

- Гарадзенская музычная інтэрнэт-старонка
  *www.michelson.by.ru*

На інтэрнэт-старонцы гарадзенскай ініцыятывы "Ў Міхельсона" можна знайсьці інфармацыю пра месцы распаўсюду беларускай музычнай прадукцыі на тэрыторыі Гарадзенскай вобласьці, інфармацыю пра канцэрты, што маюць адбыцца. Таксама прысутнічае інфармацыя пра гарадзенскую музычную сцэну - гурты розных стыляў ды накірункаў. Ёсьць інфармацыя пра арганізацыі нацыянальных меншасьцяў, што дзейнічаюць на Гарадзеншчыне, а таксама пра праекты, якія будуць ладзіцца гэтай альтэрнатывай ў 2001-2002-м гадох.

- Клюб знаўцаў Гарадзенскай вобласьці зь Беларускай лігі інтэлектуальных каманд
  *blik.org.by/grodno/*

Прадстаўляе інфармацыю, зьвязаную з дзейнасьцю арганізацыі.

- Адкрыты Інтэрнэт-цэнтар у Гародні
  *www.oic.unibel.by*

- Праграма IATP ў Гародні
  *grodno.iatp.unibel.by/partnersrus.htm*

- Старонка Гарадзенскіх клюбаў ЮНЭСКА
  *news.grsu.unibel.by:8080/conf/53_4.html*

- Таварыства польскай моладзі
  *www.tmp-zpb.narod.ru*

Таварыства польскай моладзі пры Зьвязе палякаў ў Беларусі месьціцца ў Гародні. Як кажуць на сваім сайце сябры таварыства: „Гародня – гэта наш горад", і на нашай старонцы кожны можа пазнаёміцца зь яго гісторыяй і ўба-

чыць яго найцікавейшыя месцы. Старонка абнаўляецца па меры магчымасьці і зьмяшчае інфармацыю пра арганізацыю, праведзеныя акцыі і сустрэчы.

- Лідзкі культурніцка-адукацыйны цэнтар "Павет"
  *www.angelfire.com/jazz/lavresh/*

Працуе з 1999 году. Утрымлівае добрую бібліятэку, мапы Лідчыны, навіны праекту, а таксама спасылкі на іншыя пляцоўкі, зьвязаныя зь Лідчынай.

- Маладзёвая Антыфашыстоўская кампанія зь Ліды
  *www.antyfash.narod.ru*

Як кажуць пра сябе стваральнікі пляцоўкі, "...мы не арганізацыя і, нават, ня партыя. Мы проста кампанія сяброў, якія спрабуюць зьнішчыць фашыстоўскую гідру".

- Грамадзкае аб'яднаньне "Ратуша"
  *ratusha.grodno.unibel.by*

Тут зьмешчана інфармацыя пра дзейнасьць арганізацыі, пра праекты , якія робіць "Ратуша", а таксама сьпіс партнэраў, зь якімі арганізацыя супрацоўнічае.

Пакуль што не працуе (апошняе абнаўленьне было ўвесну гэтага году).

- Смаргонскі цэнтар па правох чалавека
  *www.adzerltd.chat.ru/sshr.htm*

На старонцы зьмешчаная інфармацыя пра арганізацыю (у ангельскай мове).

## Прыватныя пляцоўкі грамадзкіх дзеячоў Гарадзеншчыны

- Сямён Домаш
  *www.domash.by*

Пляцоўка былога прэтэндэнта ў прэзыдэнты Рэспублікі Беларусь зьмяшчае палітычную інфармацыю пра выбары, якія адбыліся 9-га верасьня ў Беларусі. Прысутнічае таксама інфармацыя пра дзейнасьць "Рэгіянальнай Беларусі" і навіны, якія абнаўляюцца і зараз пару разоў на тыдні.

- Гарадзенскі прадпрымальнік Валеры Леванеўскі
  *www.levonevski.net*

Старонка падае інфармацыю пра дзейнасьць прафзьвязу прадпрымальнікаў, таксама інфармацыю пра пляны дадзенай арганізацыі. Можна пазнаёміцца таксама з абранымі артыкуламі Валерыя Леванеўскага (дарэчы, таксама браў удзел у прэзыдэнцкай выбарчай кампаніі).

**Андрэй Мялешка, Вітаўт Руднік**

## Спабор грантаў ІАТР

**Бюро па пытаннях адукацыі і культуры Дзярждэпартаменту ЗША (ECA) супольна з Радай міжнародных даследванняў і абменаў (IREX) абвяшчаюць спабор малых грантаў Праграмы навучання і доступу да Інтэрнэту (ІАТР).**

Мэтай прадастаўлення малых грантаў з'яўляецца падтрымка развіцця Інтэрнэт-рэсурсаў у мясцовых мовах: стварэнне новых вэб-сайтаў і/ці дапаўненне да ўжо дзейных вэб-рэсурсаў. Грантавыя прапановы могуць таксама тычыцца наступных сфераў: дыстанцыйнае навучанне, стварэнне вэб-сайтаў, спісаў рассылкі, а таксама канферэнцыяў, што ўключаюць on-line кампаненты. Могуць быць разгледжаныя іншыя цікавыя праекты.

IREX прымае да разгляду праекты, што тычыцца наступных тэмаў:

- развіццё сацыяльных навукаў у on-line;
- on-line перыёдыка;
- грамадскае здароўе і распаўсюджанне інфармацыі;
- падтрымка малога бізнэса;
- беларускае мастацтва, культура і гісторыя;
- метады і тэхналогіі дыстанцыйнага навучання;
- іншыя тэмы;

Апошні тэрмін падачы заяваў - 25 студзеня 2002 г. З пытаннямі і за аплікацыйнымі формамі можаце таксама звяртацца да Алены Бойка: elena@iatp.unibel.by

## Інтэрнэт для жанчын

**Першы трэнінг для жанчын – прадстаўніц грамадзкіх арганізацыяў, якія хочуць навучыцца працаваць з электроннай поштай і Інтэрнэтам, прайшоў 21 лістапада ў гарадзенскім Інтэрнэт-цэнтры.**

Аналягічныя трэнінгі пройдуць гэтаксама ў іншых абласных цэнтрах. Трэнэркай у межах гэтага праекту выступае спн. Валянціна Суворына (на здымку ў цэнтры) – кіраўніца маладзёвага грамадзкага аб'яднаньня "Мадэм" (Гародня).

## "Трэці сэктар" зноў у Інтэрнэце

**Пасьля трохмесячнага перапынку аднавіла сваю працу Інтэрнэт-пляцоўка грамадзкага аб'яднаньня "Цэнтр "Трэці сектар".**

Пляцоўка прыпыніла сваё існаваньне ў жніўні гэтага году пасьля хвалі канфіскацыяў аргтэхнікі ў грамадзкіх арганізацыях краіны.

Зь 17 лістапада па адрасе **sektar.cjb.net** зноўку можна даведацца пра апошнія падзеі грамадзкага жыцьця Гарадзеншчыны, зазірнуць у каталёгі грамадзкіх арганізацыяў, ініцыятываў і выданьняў рэгіёну. Тамсама зьмешчаныя артыкулы з часапісу "Трэці сэктар" за 1997-2001 г.г.

## Новая інтэрнэт-кляса ў Гародні



**Адкрыцьцё новай Інтэрнэт-клясы адбылося 6 сьнежня ў Гародні.**

Гасьцямі прэзэнтацыі былі лідары гарадзкіх арганізацыяў, журналісты, прадстаўнікі замежных фондаў і праграм у Беларусі. Кляса будзе дзейнічаць у межах Адкрытага інтэрнэт-цэнтру ў Гародні. Дадатковую інфармацыю можна атрымаць па тэл. (0-152) 31-32-57.







# Зьміцер Іваноўскі: „Я не скандаліст – я вольны чалавек!”

**Імя гэтага гарадзенскага мастака вядомае многім. Камусьці – праз забароны ягоных выставаў, адбіраньне майстэрні, суд за малітву каля зьнішчанай Фары Вітаўта. Іншым – празь яго цёплыя карціны, зь якіх жывымі вачыма пазіраюць на нас прыгожыя незнаёмкі, дзеці ды сівыя манахі, сякуцца насьмерць за любую Літву шляхетныя рыцары Вялікага княства, паўстаюць з попелу й нябыту разбураныя часам і нялюдзкай воляю замкі ды цэрквы... Такі ён – незвычайны й рознабаковы творца – Зьміцер Іваноўскі.**

**- Зьміцер, працягні, калі ласка, сказ: "Зьміцер Іваноўскі – гэта..."**

- Гэта... наколькі магчыма, вольны чалавек.

**- Распавядзі, калі ласка, трошкі пра сябе. Як ты стаў мастаком?**

- Ой, даўно тое было: я яшчэ пяхатой пад стол хадзіў! Бацька столярам працаваў, то я яго хімічны аловак браў і маляваў на тым стале зьнізу. Вылязу потым – вусны сінія. Людзей маляваў: жанчын, мужчынаў, сонейка, аблокі. Тыя малюнкі дагэтуль засталіся. Маляваў сьпярша алоўкамі, бо фарбаў набыць сабе ня мог: у нас у сям'і пяцёра дзяцей было.

**- А фарбамі калі захапіўся?**

- Яшчэ ў школе. Усё маляваў, нават партрэты. Зараз усе тыя малюнкі захоўваюцца ў мамы на вёсцы.

**- А сёньня чым займаесься?**

- Зараз раблю макет Фары Вітаўта.

**- Калі ў гарадзенскай экстрэмальнай паэзіі відавочны лідар - Юрась Гумянюк, то ці можна сьцьвярджаць, што сярод мясцовых мастакоў гэткім лідарам зьяўляесься ты?**

- Ты маеш на ўвазе нездаровую цікаўнасьць уладаў да маёй дзейнасьці? Я не скандаліст. Гэта сёньняшняя рэаліі робяць скандал зь любое працы. Як толькі нешта гістарычнае, то чамусьці гэта адразу шок для ўладаў. Адсюль – забароны выставаў, перашкоды розныя.

Так, я не скандаліст, аднак калі мяне давесьці... Карацей, проста ня трэба на мяне "наяжджаць". Я паважаю волю іншых, але не дазваляю рушыць сваю.

**- Апошняя гучная падзея, зьвязаная з тваім імем, гэта 40-годзьдзе з дня зьнішчэньня Фары Вітаўта. Шмат ужо зьявілася камэнтароў на твой арышт і прысуд вагой у тысячу даляраў – аднак усё гэта гучала зь іншых вуснаў. Што скажаш ты?**

- Цяпер падаў скаргі ў гарвыканкам, абласны суд і пракуратуру, напісаў адкрыты ліст да Лукашэнкі - гэта рэчаіснасьць. Наконт прысуду. Абсурд нашых законаў: адзін судзьдзя можа судзіць чалавека й выносіць яму вырак – штраф да 2000 даляраў (два гады заробкаў!). Гэта нават ня сталінская "тройка". І гэтыя пастановы "приводятся в действие немедленно и обжалованию не подлежат." Абскардзіць нельга – гэта і ёсьць абсурд.

А што датычна Фары... Ня гледзячы на ўсе гэтыя глупствы, яна будзе адбудаваная. Безь яе - як і без Каложы - папросту няма паловы гісторыі нашага Краю. Проста сёньняшняя рэаліі такія: людзей больш цікавіць нейкая плётка, суд, штраф. Часьцей за ўсё гэта пераварочваецца дагары нагамі. Губляецца сэнс акцыі. Цяпер чамусьці важнейшае тое, што Іваноўскаму далі штраф у тысячу даляраў, а не зьнішчэньне Фары. І найбольш баліць нават не разбурэньне Сьвятыны, а тое, што народ ня можа ўсьвядоміць, што ад яго ўсё залежыць, і проста чакае, пакуль усё зробяць за яго. А калі гэта зьменіцца – зьменіцца ўсё на наступны дзень. Ці нават у гэты ж. А як ён маўчыць – так і жыве. Кажам: Лукашэнка кепскі, апазыцыя кепская. А трэба спытаць сябе самога: а што я?

**- І які твой адказ самому сабе?**

– У шырокім сэнсе – раблю ўсё магчымае, у вузкім – я ведаю, што раблю вельмі мала. Я магу і зараблять, і жыць лепш, аднак гэта будзе пярэчыць майму сумленьню.

**- І апошняе пытаньне. Сьвет вачыма Зьмітра Іваноўскага - які?**

Сёньняшні сьвет нясе боль. За людзей, за самых простых людзей: калгасьнікаў, пэнсіянэраў, працоўны люд. Шэраговы беларус настолькі прызвычаіўся жыць у гэтай няволі, што ўжо ня можа адчуць сябе ня толькі вольным чалавекам, але й проста вольным жывёлінай. Яшчэ шкада, што мы ня лічым сябе адным народам: праваслаўныя – гэта "рускія", каталікі – "палякі". Людзі розных нацыянальнасьцяў ня лічаць сябе грамадзянамі Рэспублікі Беларусь. Яны пачуваюцца чужымі на гэтай зямлі.

А будучы сьвет? На шчасьце, людзі пачынаюць заўважаць, што можна выйсьці на волю, быць роўнымі зь іншымі. І яны навучацца і жыць, і працаваць, і цаніць сваю працу.

**Гутарыў Валера Руселік**



***Юры Тарасевіч, тэхнічны рэдактар:***

*Зычу, каб былі ў вас: Свабода. Здароўе. Розум.*

## Школа –сэмінар “Устойлівае разьвіцьцё няўрадавых арганізацыяў”

Прадстаўнікі беларускіх няўрадавых арганізацыяў маюць магчымасьць узяць удзел ў школе-сэмінары міжнароднага адукацыйнага праекту „Устойлівае разьвіцьцё няўрадавых арганізацыяў“ ў межах праграмы TACIS.

Мэтай дадзенага праекту зьяўляецца інтэнсіўнае навучаньне лідэраў і актывістаў рэгіянальных няўрадавых арганізацыяў асновам тэорыі груп інтарэсаў і трэцяга сэктару, тэхналёгіям практычнай палітыкі няўрадавых арганізацыяў і асновам мэнэджмэнту НГА з улікам сытуацыі ў Беларусі.

Форма навучаньня - школа-сэмінар, якая праходзіць у дзьве сэсіі па шэсьць дзён. Інтэрвал паміж сэсіямі - 1-2 месяцы. На працягу 2001-2002 г.г. будзе праведзена 5 такіх школ-сэмінараў. У кожнай зь іх прадугледжваецца ўдзел 15 слухачоў. Адбор будзе праводзіцца на спаборавай падставе.

Кожны слухач мае права браць удзел толькі ў адной школе. Заняткі будуць праводзіць высокакваліфікаваныя беларускія спэцыялісты. Слухачы азнаёмяцца з асаблівасьцямі стварэньня й дзейнасьці груп інтарэсаў, сытуацыяй у трэцім сэктары Беларусі, унутранымі і зьнешнімі фактарамі ўстойлівасьці няўрадавых арганізацыяў, камунікацыйнымі тэхналёгіямі ў трэцім сэктары, стратэгіяй і тактыкай стварэньня кааліцый НГА, тэхналёгіямі абароны і лабіяваньня інтарэсаў НГА, тэхналёгіямі плянаваньня дзейнасьці, арганізацыйнага разьвіцьця, фандрэйзынгам і г.д.

Кожны слухач атрымае пакет аўтарскіх навучальна-мэтадычных матэрыялаў па курсу школы, а пасьля завяршэньня курсу — сэртыфікат. Пасля завяршэньня кожнай із школ-сэмінараў слухачы атрымаюць магчымасьць правесьці за кошт праекту аднадзённыя сэмінары для сваіх калегаў. Лепшыя ўдзельнікі праграмы пасля завяршэньня навучаньня змогуць прайсьці стажыроўку ў Нямеччыне. Усе выдаткі, зьвязаныя з праездам, пражываньнем і навучаньнем слухачоў, бяруць на сябе арганізатары праекту.

Дадзены праект ажыцьцяўляецца наступнымі партнэрскімі арганізацыямі: Deutsch-Russischer Austausch E. V. (Нямеччына), Фонд „Адкрытае грамадзтва“ (Беларусь); Інфармацыйна-аналітычны цэнтар НГА (Беларусь).

Дадатковую інфармацыю Вы зможаце атрымаць у каардынатараў праекту па адрасе: 220050, Менск, вул. К. Маркса 6-36; Тэл/факс: 220 73 74 (Андрусь Асмалоўскі, Уладзімер Роўда, Марыя Садоўская), e-mail: infocenter@user.unibel.by



***Андрэй Мялешка, каардынатар праграмы інфармацыйнай падтрымкі грамадзкіх ініцыятываў:***

*Зычу, каб спадарства, якое займаецца справамі трэцяга сэктару ў Беларусі, пашырыла ўплыў ня толькі на выданьні, грамадзкія арганізацыі, але таксама й на простых грамадзянаў краіны! Хацелася бы, каб і зараз дзейнічаў прынцып беларускай талакі. Гэта значыць, калі здарылася нейкая бяда ў адной арганізацыі – астатнія із шчырым сэрцам ёй дапамогуць!*

## База зьвестак “Беларусь сацыяльная”

На вэб-пляцоўцы грамадзкага аб'яднаньня “Беларуская асацыяцыя сацыяльных работнікаў” http://basw.unibel.by зьмешчаная база зьвестак “Беларусь сацыяльная”.

База ўтрымлівае зьвесткі пра дзейнасьць амаль чатырох тысяч грамадзкіх, камэрцыйных, дзяржаўных, прафзьвязавых і рэлігійных арганізацыяў сацыяльнай сфэры краіны.

Дадаць альбо унесьці зьмены ў інфармацыю пра сваю арганізацыю можна шляхам запаўненьня адпаведнай анкеты, зьмешчанай на вэб-пляцоўцы.

Запоўненыя анкеты трэба даслаць на адрас: а/с 179, 220123, Менск, альбо на e-mail: basw@nsys.by

**Прапановы**

## „Радыё Палёнія“ запрашае да дыскусіі

**Беларуская рэдакцыя „Радыё Палёнія“ запрашае далучыцца да дыскусіі „Беларусь і Польшча ў новай рэчаіснасьці“.**

Разважаньні на гэтую тэму на 2-3 старонках машынапісу можна даслаць на адрас электроннай пошты kamunikat@poczta.onet.pl. Аўтары самых цікавых разважаньняў атрымаюць у падарунак радыёпрымачы. Ёсьць таксама CD і касэты з польскай і беларускай музыкай, кніжкі ды іншыя цікавыя ўзнагароды.

Беларуская рэдакцыя „Радыё Палёнія“/"КАМУНІКАТ" прапануе таксама падпісацца на бясплатнае штоквартальнае друкаванае выданьне „КАМУНІКАТ“. Для падпіскі на яго дашліце свой паштовы адрас на e-mail: kamunikat@poczta.onet.pl. Запрашаем таксама на нашыя старонкі:
http://www.radio.com.pl/polonia/bialoruska_be.asp
http://republika.pl/kamunikat/

**Паводле БАРЦ-навін**

## Створаная Асацыяцыя выпускнікоў

**8-9 сьнежня ў Гародні была заснаваная беларуская філія Асацыяцыі выпускнікоў Цэнтральна-Эўрапейскага ўнівэрсытэту (Будапэшт).**

Новая арганізацыя мае намер займацца падтрымкай сувязяў паміж выпускнікамі і іх Alma mater, прамоцыяй ідэалаў Унівэрсытэту - адкрытасьці і свабоды. Асацыяцыя будзе займацца стварэньнем сеткі выпускнікоў, дапамогай у наборы новых навучэнцаў, рэклямай гэтай навучальнай установы, арганізацыяй сумесных мерапрыемстваў.

Дадатковую інфармацыю можна атрымаць у Сяргея Салея (0-152-96-74-73, saleis@tut.by).



## Беларусь аб’яднаная

**Міжнароднае грамадзкае аб’яднаньне „Згуртаванне беларусаў сьвету "Бацькаўшчына" ў адпаведнасьці з пастановамі Трэцяга зьезду беларусаў сьвету стварае інфармацыйны цэнтар „Беларусь аб’яднаная“.**




У праграме інфармацыйнага цэнтру - стварэньне адзінай базы дадзеных беларускіх грамадзкіх арганізацыяў у замежжы і ў Беларусі, стварэньне web-сайту, правядзеньне круглага столу, выпуск галіновых дайджэстаў, інфармацыйнага бюлетэню і інш. Web-сайт будзе ўтрымліваць базу дадзеных, нарматыўную інфармацыю Рэспублікі Беларусь па пытаньнях беларускай дыяспары, тэлеканфэрэнцыю, электронныя вэрсіі дайджэстаў і бюлетэню, запрашэньні да супрацоўніцтва ў сфэры культуры, навукі, эканомікі і адукацыі, інфармацыю аб гісторыка-культурнай спадчыне Беларусі за мяжой. Плянуецца таксама разьдзел „United Belarus“ у ангельскай мове.

Мяркуецца штомесяц выдаваць бюлетэнь “Беларусы замежжа”, які будзе асьвятляць пытаньні жыцьця і дзейнасьці беларускай дыяспары, эміграцыйнай палітыкі краін яе пражываньня, удзел беларусаў замежжа ў грамадзкіх і палітычных працэсах іншых дзяржаваў.

Першым мерапрыемствам інфармацыйнага цэнтру стала сустрэча паміж прадстаўніцамі швэдзкай арганізацыі “Varby Gard” з кіраўніцтвам жаночых грамадзкіх аб’яднаньняў Беларусі. Сустрэча была наладжаная, дзякуючы прадстаўніцы беларускай дыяспары ў Швэцыі спн. Ларысе Гудлеўскай. Зь беларускага боку былі прадстаўленыя арганізацыі МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”, Беларускі жаночы інфармацыйна-каардынацыйны цэнтар, Менскае аддзяленьне Беларускай арганізацыі жанчын-юрыстаў, Магілёўскае гарадзкое грамадзкае аб'яднаньне “Жанчыны для жанчын”, грамадзкае аб’яднаньне “Надзея” (Горкі), аб’яднаньне “Камяніца” (Наваградак).

Швэдзкая арганізацыя паўстала як нефармальны жаночы клюб на базе швачнага атэлье. Там пачалі зьбірацца жанчыны-імігранткі з розных краін, для якіх былі наладжаныя курсы швэдзкай мовы, навучаньне швэдзкім законам і звычаям, маглі атрымаць псыхалягічную дапамогу. Пазьней пры арганізацыі пачаў працаваць пакой для дзяцей.

Такія сустрэчы паміж беларускімі і замежнымі арганізацыямі ЗБС “Бацькаўшчына” мяркуе ладзіць рэгулярна.

З навінамі аб дзейнасьці Згуртаваньня “Бацькаўшчына” можна азнаёміцца на сайце: zbsb.org Дадатковую інфармацыю можна атрымаць па адрасе: 220050, Менск, вул. Рэвалюцыйная, 15, т./ф.: (017) 289-31-94, e-mail: zbsb@lingvo.minsk.by

## Я – Жанчына. У мяне ёсьць права на жыцьцё бяз гвалту!




**Фонд ААН разьвіцьця жанчын ЮНІФЭМ распачаў рэгіянальную інфармацыйна-асьветную кампанію "Жыцьцё бяз гвалту" 24 кастрычніка 2001 году ў 9 краінах: Азэрбайджане, Беларусі, Казахстане, Кыргызстане, Летуве, Малдове, Грузіі, Таджыкістане і Ўзбэкістане.**

У Беларусі ў якасьці арганізатараў выступае ініцыятыўная група, якую складаюць ЮНІФЭМ, Цэнтар гендэрнай інфармацыі і палітыкі міністэрства працы і сацыяльнай абароны Рэспублікі Беларусь, ГА “Беларуская Асацыяцыя Маладых Хрысьціянскіх Жанчын” і Незалежны жаночы дэмакратычны рух. Кампанія разьлічаная на 18 месяцаў: з кастрычніка 2001 г. па красавік 2003 г.

**Прапановы**

Галоўная мэта кампаніі - спрыяць павышэньню інфармаванасьці насельніцтва аб праблеме гвалту над жанчынамі, як аб злачынстве і парушэньні правоў чалавека, усьведамленьню яго эканамічных і сацыяльных наступстваў, прычын і праяваў. Яна накіравана, у першую чаргу, на ліквідацыю хатняга гвалту, а таксама - на папярэджаньне сэксуальных дамагальніцтваў на працоўным месцы.

Кампанія накіравана найперш на жанчын, якія пацярпелі ад гвалту. Другім важным стратэгічным накірункам кампаніі зьяўляецца праца з мужчынамі і хлопчыкамі, іх актыўнае прыцягненьне ў кампанію.

А таксама важныя стратэгічныя групы: дзяржаўныя службоўцы, работнікі праваахоўных органаў, журналісты, прадстаўнікі грамадзкіх арганізацыяў.

Арганізатары прадугледжваюць шэраг мерапрыемстваў:

- публікацыі плякатаў, брашур, інфармацыйных матэрыялаў;
- спаборы артыкулаў, праграм на тэлевізіі і радыё;
- спаборы дзіцячых малюнкаў;
- сацыялягічныя дасьледаваньні па пытаньнях гвалту супраць жанчын;
- трэнінгі для журналістаў, работнікаў праваахоўных органаў, НГА, Крызысных цэнтраў;
- тэлевізійныя і радыёток-шоў.

Ужо распаўсюджаныя некаторыя друкаваныя матэрыялы, якія зьмяшчаюць інфармацыю пра хатні гвалт, рэкамэндацыі, як сябе абараніць, а таксама тэлефоны, куды жанчына можа зьвярнуцца за дапамогай.

**Лана Руднік**

***Лана Руднік, каардынатарка Праграмы падтрымкі жаночых ініцыятываў:***

*Каб у нас заўсёды была магчымасьць выбіраць і акрамя магчымасьці былі альтэрнатывы. Каб Мова, Традыцыі, Каханьне, Вера і Свабода былі нашымі каштоўнасьцямі! Жыве родная Беларусь!*





# Праграма малых грантаў Ўсясьветнага банку

**Ад тысячы да пяці тысяч даляраў змогуць атрымаць грамадзкія арганізацыі, якія стануць пераможцамі спабору малых грантаў Прадстаўніцтва Ўсясьветнага банку ў Беларусі.**

Да ўдзелу ў спаборы запрашаюцца зарэгістраваныя арганізацыі, якія ажыцьцяўляюць дзейнасьць, накіраваную на павышэньне ўзроўню жыцьця, разьвіцьцё людзкіх рэсурсаў, абарону навакольнага асяродзьдзя, разьвіцьцё прадпрымальніцтва.

Перавага аддаецца праграмам і праектам, якія:

- спрыяюць разьвіцьцю дыялёгу і/альбо распаўсюду інфармацыі;
- актуальныя больш чым для адной краіны;
- рэалізуюцца арганізацыямі мясцовага ўзроўню;
- спрыяюць аб'яднаньню намаганьняў і ўзаемадзеяньню розных груп грамадзтва;
- ня толькі вызначаюць праблему, але і прапануюць яе разьвязаньне;
- маюць падтрымку іншых донараў;
- маюць досьвед рэалізацыі грантаў;
- ня ўдзельнічалі раней у праектах па лініі Ўсясьветнага банку.

Праграма не фінансуе дасьледніцкія і адукацыйныя праграмы, надзённыя адміністратыўныя выдаткі, набыцьцё абсталяваньня, стыпэндыі, паездкі з навучальнай альбо турыстычнай мэтай. Праграма не фінасуе больш паловы неабходнага бюджэту: пажадана, каб грант стымуляваў атрыманьне дадатковых сродкаў зь іншых крыніц.

Для ўдзелу ў Праграме патрэбна запоўніць анкету, якую можна атрымаць па ніжэй пададзеным адрасе альбо замовіць у грамадзкім аб'яднаньні "Цэнтр "Трэці сектар".

Апошні тэрмін падачы заявак – 1 лютага 2002 году.

Дадатковую інфармацыю можна атрымаць па адрасе:

**Прадстаўніцтва Ўсясьветнага банку ў Беларусі**
**вул. Герцэна, д 2а (ст. мэтро "Кастрычніцкая")**
**Менск, 220030**
**Тэл. (0-17) 226-52-84, факс (0-17) 211-03-14**
**e-mail: ioleinick@worldbank.org**
**Каардынатарка праграмы – Ірына Алейнік.**



## Праграма "Зьберажы росы белыя"




**Да 20 студзеня можна падаць заяўку на атрыманьне фінансаваньня ў межах праграмы Амэрыканскай непрыбытковай карпарацыі «ISAR,Inc» "Зьберажы росы белыя".**

Праграма прадугледжвае прадстаўленьне фінансавай і тэхнічнай дапамогі грамадзкім арганізацыям Беларусі й будзе ажыцьцяўляцца да верасьня 2002 г. Мэта праграмы - спрыяньне разьвіцьцю грамадзкага экалягічнага руху Беларусі шляхам падтрымкі дзейнасьці НГА, накіраванай на разьвязаньне праблем у галіне аховы навакольнага асяродзьдзя.

Да ўдзелу ў праграме запрашаюцца зарэгістраваныя беларускія НГА. Праграмай прадугледжваюцца два віды грантаў: звычайны грант (да 2000 даляраў ЗША); дыскрэтны грант (да 500 даляраў ЗША), які прызначаецца для выкананьня праекту, якія патрабуюць тэрміновага фінансаваньня. Заяўкі на атрыманьне дыскрэтнага гранту разглядаюцца на працягу 14 дзён з моманту паступленьня заяўкі.

Заяўкі прымаюцца ў Прадстаўніцтве «ISAR,Inc» ў Менску па адрасе: г.Менск 220048, вул. Замкавая, д.28, к.16, т./факс (0-17 )223 84 98. Кансультацыі можна атрымаць па пададзеным вышэй нумары тэлефону альбо праз e-mail: belisar@solo.by

## Школа вывучэньня ВКЛ

**Гарадзенскае абласное грамадзкае аб'яднаньне "ВІТ" разам з грамадзкім аб'яднаньнем "Гуманітарны цэнтар дасьледаваньняў Усходняй Эўропы" абвясьцілі набор ў Школу вывучэньня ВКЛ на 2001-2002 годы.**

У рамках школы будзе праведзена 14 навукова-практычных заняткаў па крыніцах і гістарыяграфіі пэрыяду XIV-XVI ст.ст., а таксама палеаграфіі, мэтралёгіі, геральдыцы і інш.

Да ўдзелу запрашаюцца маладыя гісторыкі, юрысты, культуролягі і філёлягі ад 20 да 30 гадоў, якія займаюцца праблемамі ВКЛ XIV-XVI ст.ст.



***Валеры Руселік, каардынатар праекту „Школа Маладога Журналіста-6":***

*Зычу ўсім многа шчасьця і ўпэўненасьці ў тым, што нашыя думкі, учынкі і памкненьні, слушныя й абавязкова знойдуць сваё месца ўва ўдзячных сэрцах нашчадкаў. Люблю вас усіх – любіце й вы сябе (і мяне трошачкі)!*





# Пераймаем дацкі досьвед

**Зь 9 па 22 лістапада сябры беларускага "Грамадзянскага форуму" зь Берасьця, Пружанаў, Магілёву, Быхаву, Менску й Гародні гасьцявалі ў Даніі. Арганізатар паездкі – дацкая маладзёвая арганізацыя SILBA – запрасіла беларусаў пазнаёміцца з працэсам правядзеньня выбараў у гэтай краіне. У складзе групы была й гарадзенка Тацяна Бабкова (на верхнім здымку), размову зь якой мы і прапануем вашай увазе.**



**-Таня! Якім чынам вы знаёміліся з хадой выбараў у Даніі?**

-Па-першае, мы знаёміліся з мэтадамі правядзеньня перадвыбарчай кампаніі дацкай лібэральнай моладзі (маладзёвае крыла партыі Venstre), а па-другое, – з тым, як дзяржава арганізуе выбары.

**-Якія выбары праходзілі на той момант?**

-Упершыню ў гісторыі Даніі выбары праходзілі адразу на трох узроўнях улады: у органы ўлады камунаў, графстваў, у парлямант краіны.

**-Якія незвычайныя для нашай сытуацыі моманты ты заўважыла ў арганізацыі выбараў у Даніі?**

-Мяне зьдзівіла адкрытасьць палітыкаў. Напрыклад, яны самыя раздаюць улёткі на вуліцах. Прычым гэта могуць быць як дзейны міністар, гэтак і маладая дзяўчына, якая ўпершыню надумала ўзяць удзел у выбарах у якасьці кандыдаткі.

**-Чым была для вас карысная гэтая паездка?**

-Кожны з нас меў магчымасьць актыўна ўдзельнічаць у перадвыбарчай кампаніі. Мы раздавалі ўлёткі на вуліцах, разносілі іх па паштовых скрынях, дапамагалі арганізоўваць дэбаты паміж кандыдатамі ў школах, каб маладыя людзі, якія будуць галасаваць праз чатыры гады, ужо зараз мелі ўяўленьні пра кандыдатаў.

**-На тваю думку, Данія – сапраўды дэмакратычная краіна?**

-Данчукі вельмі ганарацца тым, што жывуць у дзяржаве із стопяцідзесяцігадовымі дэмакратычнымі традыцыямі.

Як юрыстка, я магу сказаць, што заканадаўства ў Даніі моцна адрозьніваецца ад беларускага. Напрыклад, адметнай рысай дацкага выбарнага заканадаўства зьяўляецца адсутнасьць інстытуту назіраньня. Гэта зьвязана з тым, што любы грамадзянін можа прыйсьці на выбарчы ўчастак і паназіраць за працэсам галасаваньня. Пры гэтым старшыня выбарчай камісіі ледзь не абавязаны пачаставаць такога назіральніка кубачкам кавы.

**-Няўжо ў іх сапраўды такое бесклапотнае жыцьцё?**

-Не. Грамадзянаў Даніі турбуюць дзьве асноўныя праблемы: высокія падаткі (больш 50% ад даходаў) і вялікая плынь эмігрантаў.

**-І, напрыканцы, раскажы пра сваё самае яркае ўражаньне ад Даніі.**

-Мора, архітэктура, прырода. Там у лістападзе яшчэ квітнеюць ружы! Гэта нельга апісаць, гэта трэба бачыць!

**Гутарыла Алена Пронская**



Новаабраны прэмьер-міністар Даніі сп. Расмусан на сустрэчы з беларусамі.

## Экспэдыцыя "Павету"

**10 лістапада лідзкім краязнаўчым Таварыствам "Павет" была праведзена экспэдыцыя ў мястэчка Трабы (Івейскі раён).**

Мэтай экспэдыцыі быў збор матэрыялаў з інвэнтароў 1713-1900 г.г. Інфармацыя ўключала ў сябе гістарычныя даведкі, судовыя дакумэнты, ахвяраваньні, павіннасьці сялянаў таго часу, а таксама стан касьцёлу ў параўнаньні: ад 1913 году – па цяперашні час.

# Цэнзары наступаюць на свабоду слова

**Праект закону "Аб унясеньнях зьмяненьняў і дапаўненьняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі" можа зрабіць яшчэ больш жорсткім кантроль за інфармацыйнай дзейнасьцю ў нашай краіне. Так лічаць экспэрты грамадзкага аб'яднаньня "Беларуская асацыяцыя журналістаў" Міхаіл Пастухоў і Юры Тапарашаў.**

З падрыхтаванай гэтымі спэцыялістамі экспэртнай ацэнкі вынікае, што некаторыя палажэньні праекту закону наўпрост закранаюць ня толькі СМІ, але і інтарэсы грамадзкіх арганізацыяў.

Прывядзем некалькі прыкладаў з тэксту згаданай вышэй экспэртнай ацэнкі:

*"...пункт 3 артыкулу 6...практычна забараняе любое ўзгадваньне аб дзейнасьці партыяў і грамадзкіх аб'яднаньняў, якія па тых альбо іншых прычынах не прайшлі перарэгістрацыю альбо былі ліквідаваныя (Статья 6. Злоупотребление свободой массовой информации: Злоупотребление свободой массовой информации выражается в: распространении информации, формирующей и поддерживающей интерес к незарегистрированным, не прошедшим перерегистрацию или ликвидированным политическим партиям либо общественным объединениям.)*

*Закон, які дзейнічае зараз, накладае забарону толькі на выступленьні ад імя такіх партыяў і арганізацыяў. Можна меркаваць, што дадзенае палажэньне праекту будзе выкарыстоўвацца для адпраўкі ў небыцьцё праз інфармацыйнае блякаваньне тых палітычных партыяў і грамадзкіх арганізацыяў, якія ўяўляюць небясьпеку для ўлады".*

*"Артыкул 16 праекту ўздымае колькасную плянку друкаваных выданьняў, для якіх не патрабуецца рэгістрацыя: ад 300 да 500 асобнікаў. Пры гэтым уяўным "прагрэсе" пункт 2 гэтага артыкулу фактычна перакрэсьлівае дазвалялыную норму пункту 1. Аказваецца, што для выйсьця ў сьвет любога друкаванага выданьня накладам ад 1 да 500 асобнікаў неабходна атрымаць дазвол мясцовай выканаўчай улады з прадстаўленьнем ёй кантрольнага асобніка кожнага нумару выданьня (Статья 16. Освобождение средств массовой информации от регистрации:*

*1. Не требуется регистрация:*

*1.1. печатных средств массовой информации тиражом до 500 экземпляров;*

*...2. Для выпуска в свет печатных средств массовой информации тиражом до 500 экземпляров необходимо предоставить в соответствующий местный исполнительный и распорядительный орган документы, отражающие выходные данные издания, а также предоставить контрольный экземпляр такого издания в порядке и на условиях определенных законодательством Республики Беларусь.). У выніку ўзмацняецца дзяржаўны кантроль за дзейнасьцю СМІ ўсіх відаў, нават маланакладных. А неабходнасьць прадстаўленьня кантрольнага асобніка ёсьць намер увесьці цэнзуру".*

На падставе папярэдняй экспэртызы вышэй згаданых і многіх іншых палажэньняў праекту закону, аўтары робяць выснову, што *"ў новай рэдакцыі Закон аб друку мае рысы рэакцыйнасьці і стварыць прававыя асновы для надалейшага наступу на свабоду слова"*.

У сувязі з гэтым аўтары прапануюць арганізаваць шырокае грамадзкае абмеркаваньне праекту закону. Спадзяемся, што гэтая публікацыя дапаможа прадстаўнікам трэцяга сэктару сфармаваць і выказаць сваю думку наконт праекту Закону аб друку.

## САР прапануе "Новы рэсурс"

Убачылі сьвет першыя два нумары бюлетэню "Новы рэсурс". Выданьне зьяўляецца часткай Праграмы Партнэрства Альянсу Каўнтэрпарт (САР) ў Беларусі. У першым нумары распавядаецца пра выніки больш чым 20 праектаў, якія былі зьдзейсьненыя грамадзкімі арганізацыямі ў партнэрстве з САР на працягу красавіка-верасьня 2001 г. Бюлетэнь падае інфармацыю пра САР, іншыя міжнародныя праграмы, а таксама спасылкі на карысныя рэсурсы інтэрнэту.

Другі нумар сфакусаваны, у асноўным, на дзейнасьці грамадзкіх арганізацыяў і ініцыятываў у трох прыярытэтных для САР на гэты момант гарадох: Смаргоні, Жодзіне і Горках. Акрамя таго, у нумары ёсьць парады, зьвязаныя з арганізацыяй стратэгічнага пляна-ваньня ў грамадзкай арганізацыі, а таксама карысная інфармацыя для бугальтараў.

Рэдактар бюлетэню – Зьміцер Станюта. Замовіць "Новы рэсурс" можна па тэл. у Менску (0-17) 217-77-73.

## Сяброўскі часапіс Зэльвеншчыны

У хуткім часе ўбачыць сьвет сяброўскі часапіс, прысьвечаны Зэльвеншчыне. На старонках часапісу будуць прадстаўленыя пераклады Алены Таболіч, творчасьць Валерыя Жамойціна, рэпрадукцыі зэльвенскага мастака Васіля Шамрука.

Асобнае месца ў часапісе адведзенае асьвятленьню апошніх падзеяў, якія адбываліся на Зэльвеншчыне ў 2001-м годзе.

Заснавальнікам і адным з гаспадароў гэтага выданьня зьяўляецца Юры Качук.






**Сябры грамадскага аб'яднаньня „Цэнтр „Трэці Сектар" і рэдакцыі часапіса выказваюць удзячнасьць усім тым, хто сёлета працаваў з намі і дапамагаў нам:**

**Нашым донарам:**
Counterpart Alliance for Partnership (CAP) і асабліва Прадстаўніцтву CAP у Беларусі;
OSI;
IDEE (Варшава);
Прадстаўніцтву ISAR у Беларусі;
Праграме TACIS і Прадстаўніцтву Эўрапейскай камісіі ў Беларусі.
**Нашым партнэрам:**
Грамадзкаму аб'яднаньню "Віт"
Грамадзкаму аб'яднаньню "Ратуша"
Грамадзкаму аб'яднаньню "Воля да разьвіцьця"
Грамадзкаму аб'яднаньню "Ветразь"
Грамадзкаму аб'яднаньню "Мадэм"
Грамадзкаму аб'яднаньню "Нэкст Стоп-Нью Лайф"
Ініцыятыўнай групе "Жаночы лад"
"Інфармацыйна-аналітычнаму цэнтру "Генэрацыя".
Інфармацыйнаму сэрвісу BARCNews
Грамадзкаму аб'яднаньню "Аб'яднаны шлях"
Выканаўчаму бюро Асамблеі няўрадавых арганізацыяў Беларусі
Кіраўніку Прадстаўніцтва Міжнароднага адукацыйнага цэнтру ў Гародні Віктару Хоціму.
Рэдакцыі газэты "Пагоня";
Рэдакцыі газэты "Биржа информации";
Рэдакцыі газэты "Glos z-nad Niemna"